

Чытайце на ст.4-5, а таксама 6-7:

**Новыя і новыя ГераСТРАТЫ**



**Апаноўваюць запаведныя тэрыторыі Беларусі**

З любоўю да ўлоння

№5 (20)
Кастрычнік 1999

16 старонак

# БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

Беларуская прыродалюбная асветна-публіцыстычная газета

Двухмесячнік

АНТАЛОГІЯ * КАНВЕНЦЫЯ * НЕРУШЫ * ТУТ * АЎТОГРАФ * КОЛА * ЛІЦЭЙ * КЛІЧ КАСАНДРЫ * ДЗЯДЫ

# Гэта наша з табою зямля!..



## Слова рэдактара



Аднойчы падчас інтэрв'ю мой суразмоўца прафесар-гісторык вельмі абнадзейліва і пэўна заўважыў: "Беларусі не трэба вяртацца ў Еўропу. Дзякаваць Богу, яна й не сыходзіла са свайго месца. Бачыце, стаіць наш Мірскі замак – кветка сярэднявечча – там, дзе стаяў. Са свайго, еўрапейскага месца не зрушыўся й стольны наш вялікалітоўскі Нясвіж. І Камянецкая вежа па-ранейшаму вартуе абшар еўрапейскага вялікага лесу".

Было гэта, праўда, на пачатку 90-х. Незалежная Беларусь яшчэ толькі асвойвала "Цэнтр Еўропы", а яе суверэнныя дыпламаты, нібы з тае Камянецкае вежы, аглядалі свае, айчынныя геапалітычныя працягі — Усход, Захад, Поўнач, Поўдзень.

Аднак парыванні беларускіх геапалітыкаў, на жаль, не спраўдзіліся. Беларусь, зрынутая ў цемру двума гвалтоўнымі рэферэндумамі, апынулася пад ястрабковым наглядам іншых геапалітыкаў і стратэгаў. І сёння геапалітычны чыннік беларускае ўлады ўжо відавочны сваёй праўсходняй, прарасійскай скіраванасцю. Беларусі, якая займае сярэдзіну Еўрапейскага кантыненту і належыць да Заходняй Еўропы, угатаваная доля паўночна-заходняга краю ці, як казалі нашы папярэднікі, месца ў расейскім абозе. З пункту гледжання дзяржаўнай самастойнасці — гэта здача пазіцый, межаў, каштоўнасцяў і ў рэшце рэшт – будучыні. Нацыі не далі ўсвядоміць вялікую перавагу дэмакратычнага выбару, годнага й самабытнага гаспадарства ў сваёй айчыне, магчымасці рушыць па еўрапейскім гасцінцы, па якім годна хадзілі продкі-беларусы.

Прырода-маці, яе багацці і сымбалі, яе першавобраз ёсць поўнымі велічы й зместу тады, калі ёсць Свабода, калі скарбы нацыі — родная мова, культура, прырода, гісторыя, вера — не прыгнятаюцца чужым гаспадарствам і панаваннем, а годна ўсведамляюцца ўсімі намі ў дзяржаватворным працэсе самастойнага вызначэння.

Напраўду, нам, беларусам, не трэба вяртацца ў Еўропу. Мы Т У Т . У Еўропу — праз Беларусь— намагаюцца іншыя, пры гэтым нас маючы за "калідор", аб нас – "на апошнім кіламетры" – выціраючы ногі...

Так быць не павінна. Божа, не дай!

Валеры Дранчук

## Ты маеш выгляды прарока, мой край...

ст. 10-11

Газета выдаецца па ініцыятыве інфармацыйнага зялёнага агенцтва "Неруш-прэс",
пры фінансавай падтрымцы Прадстаўніцтва ААН у Беларусі.

Лаўрэат еўрапейскай прэміі Генры Форда "За захаванне культурнай спадчыны і ахову навакольнага асяроддзя"- 1999

Заснавальнік і рэдактар Валеры Дранчук

Для кантактаў:
220088 Мінск, вул. Іванаўская, 38-16
Тэл. (0172) 36-50-76, факс 220-23-53

## Да таго,

Закладка на ўразуменне тым, хто сёння прымае рашэнні

## як сканае

*"У нацыянальных парках, адчыненых для турыстаў, назіраецца добра знаёмая **"чалавечая эрозія"**, праявы якой шматаблічныя..."*

## прырода

**...адзін з эпізодаў** "селекцыйнага адстрэлу" белавежскага зубра ў нацыянальным парку. "Багавейлівасць перад жыццём" на запаведнай тэрыторыі, як кажуць, у натуры... Кошт чырвонакніжнага трафея ўжо аплачаны-- 8.000 дойчмарак.



ст.6-7



**Беларусь- шматаблічны калідор таварных патокаў на Захад**

*вёска Новыя Навасёлкі Нясвіжскага раёна "трымае" на сваім былым тарфяным радовішчы новую газавую магістраль **Ямал - Еўропа**

# АНТАЛОГІЯ ANTHOLOGY

## Сціхла над возерам, воблачна ў небе... Недзе запелі ўзвіжанне гусі



Фота: Аляксандр Гутоўскі

*Анталогія ў перакладзе з грэцкае мовы значыць* ***букет кветак.*** *Старажытныя грэкі так называлі зборнікі выбраных твораў паэзіі*



Няўжо не бачыце,
Як яе здратавалі,
Вытапталі,
Пакалечылі?

А яшчэ збіраемся
Такія ж сляды
Пакінуць
І на іншых планетах.

***Бертольд Брэхт*** **
(1898-1956)
Нямеччына

Д ы м

Маленькая хатка між дрэў,
каля возера.
Дыму слупок плыве ў вышыні,
струменіць.
Каб не было яго,
якія былі б панылыя
і гэтая хатка, і дрэва, і возера.

***Янка Купала***

Л я с н о е   в о з е р а

Дрэмле абсаджана лесам адвечным,
Цінай засланае возера ў лесе.
Шастае сціха асока і аер,
Нудныя казкі куст з кустам шапоча.

Сосны і вязы, дубы і асіны
Вокала возера вартай пасталі,
Долу ківаюць паклоны нямыя,
Небу малітву таемную твораць.

Возера! Возера! Йду к табе смутны
Соннаю пушчай, амшалаю сцежкай, —
Жоўтае лісце шасціць пад нагамі,
Шчокі калючка сасновая шчыпле.

Сам з сабой насам пад дубам
саджуся, —
Вочы і думкі пабеглі далёка...
Сціхла над возерам, воблачна ў небе...
Недзе запелі ўзвіжанне гусі.

***Тадэвуш Ружэвіч******
Польшча

Б у р ш т ы н а в ы   п т а ш а к

восень
бурштынавы пташак
празрысты
з галінкі на галінку
золата носіць па кроплі

восень
рубінавы пташак
святлісты
з галінкі на галінку
кроплі крывінак носіць

восень
лазуркавы пташак
ціха канае
з галінкі на галінку
кроплі дажджу спадаюць

***Басё*** ***

Японія
XXVII ст.

***

Павісла на сонцы
Воблака... А па ім касяком –
Пералётныя птушкі.

***

На голай галіне
Самотна сядзіць крумкач.
Восеньскі вечар.

***Валеры Дранчук***

П а   с х о д н я х   в о с е н і

Ліста-
пад
злятаюць да ног
вінтавыя лесвіцы

спыніць бы імгненне
пайсці невагома
па сходнях мройных
барвовых

віюцца
злятаючы
лесвіцы
восень сыходзіць
след вокамгненны
яе спіраляў

дні дагараюць

***З народнага***

Р э ч а н ь к а
Беларуская песня

Ой, рэчанька, рэчанька,
Чаму ж ты ня поўная?
Люлі, люлі, люлі,
Чаму ж ты ня поўная?

Чаму ж ты ня поўная?
З беражком ня роўная?
Люлі, люлі, люлі,
З беражком ня роўная?

А як жа мне поўнай быць,
З беражкамі роўнай плыць?
Люлі, люлі, люлі,
З беражкамі роўнай плыць?

Янка коніка паіў,
Маня воду чэрпала.
Люлі, люлі, люлі,
Маня воду чэрпала.

***Мацей Юзаф Кананові̇ч*** *
Польшча

Д у б   н а т х н е н н я

Хто выдумаў так той дуб
І хто апланаваў
Далягляд, у які
Ён упісаўся, кампактна стаў?

Карэнне, як жылы, пусціў
На пясчаных, гарбатых узгорках,
А шумлівым лісцём
Нырае ў блакітнае мора.

Хто выдумаў гэткі дуб,
З такой лірычнай высновай,
Што ў кроне, нібы ў галаве,
Трымае гняздо буслова?

Адгэтуль вёска відаць –
Платы, цэркаўка, хаты
І нізка схілены крыж –
Плён жыцця небагаты.

Ясна – калі б не дуб,
Вятры узгорак разнеслі б
І збяднеў краявід
Вёскі, што просіцца ў песню.

Вёскі гэтай маёй
З хатаю, кузняй, ставам,
З крыжам на стыку дарог,
З рэчкай, з мостам дзіравым.

Не было б і гнязда,
Дзе абжываецца бусел,
І найперш не было б
Радкоў гэтых самых, мусіць.

***Гальяш Леўчык***
(1880-1944)

С у х е н ь к і   л і с т о ч а к

З пучочкаў і кветак,
З зялёненькай траўкі,
З пахільнай сцяблінкі
Вясны маладой

Астаўся мне толькі
Для сумнай забаўкі
Сухенькі лісточак
З галінкі сухой...

*Пераклады:*
* *Рыгор Семашкевіч*
** *Лявон Баршчэўскі*
*** *Валеры Дранчук*

***Максім Танк***

Э к а л о г і я

Як толькі ў маленстве
Сяк-так навучымся хадзіць,
На гэтым, звычайна,
І канчаецца наша
Адукацыя.

А мы, прызнацца,
Хоць і мінулі
Тысячагоддзі,
І да гэтага часу
Не ўмеем хадзіць
Па зямлі
Так, як дні і ночы,
Звяры і птушкі,
Вятры і дажджы.

***Уэндзелл Бэры******
Канада

Калі страх і адчай падступаюць да самых маіх вакон,
і ўначы я за кожным зыкам заснуць не магу
ад трывогі (што будзе са мною і як будуць жыць мае дзеці?),
тады я паціху сыходжу туды, дзе зыбкая хваля ў чаротах
пагойдвае дзікага вуценя, і ў соннай азёрнай расцы
чапля шукае спажывы.

Я сыходжу ў гэты спакой, у гэтыя рэшткі дзікай прыроды,
дзе жыццё засцярожліва асланяе сябе ад разбуральнага прадчування.
Я сыходжу ў спакой і гляджуся ў люстэрка вады.
А нада мною ў вышы зоркі прымружылі вейкі,
каб не даймала мяне іх святло,
пакуль я на ўлонках прыроды
шукаю гаючы спачын ад наслання й небяспекі.



Фота: Віталь Прошча

SUMMARY

*Our poetry anthology page presents some Belarusian and foreign authors embracing late autumn and the severe ecological crisis.*

# Рада Еўропы засведчыла кампетэнтную ўвагу да якасці і абароны ландшафтаў

*Камітэт міністраў рады Еўропы рыхтуецца прыняць Еўрапейскую канвенцыю па кіраванні і абароне прыродных і культурных ландшафтаў (адзін з варыянтаў назвы). Рэдакцыя дапускае, аднак, што гэты факт надзвычайнай значнасці ў прызнанні і ўсведамленні ролі ландшафтаў на карысць рэгіянальнай самабытнасці, а таксама іх ролі ў выяўленні каштоўнасці жыцця чалавека ў стасунках з навакольнымі асяродкамі — ужо здзейснены і, магчыма, сёння канвенцыя аб ландшафтах адкрытая для падпісання ў якасці міжнароднага юрыдычнага дакумента.*

*На жаль, афіцыйны Мінск вельмі цьмяна засведчаны ў валоданні гэткімі падрабязнасцямі, бо не мае сталых і чынных кантактаў з еўрапейскімі органамі (варта зазначыць, што ўвесь год, лічы*



*патрачаны на ўніфікацыю беларуска-расейскага заканадаўства, у тым ліку і прыродаахоўнага).*

*Прынамсі, пра напрацоўкі і ход падрыхтоўкі гэтай важнай канвенцыі не ведалі ў шэрагу "зацікаўленых" міністэрстваў, дый не выказвалі з такой прычыны вялікае заклапочанасці.*

*Тым часам канвенцыя, да якой, будзем спадзявацца, далучыцца і Беларусь, мае шмат найістотных момантаў. Важна падкрэсліць, напрыклад, што поле яе ўжытку будзе ахопліваць не толькі выдатныя ландшафты, але і звычайныя. Аднак пры гэтым будзе існаваць Спіс ландшафтаў еўрапейскага значэння, — своеасаблівае выбранае культурнай самабытнасці Еўропы, куды, вядома ж, патрапяць і краявіды нашай роднай Беларусі.*

*У бліжэйшыхвыпусках газета мае намер надрукаваць тэкст канвенцыі і працягнуць гаворку аб тым, якім чынам сумясціць права на эканамічную эфектыўнасць і дабрабыт з правам на самабытны ландшафт, хараство і здароўе нацыі.*

**SUMMARY**

***The Council of Europe is preparing to adopt the European Landscape Convention** (or may already have done so, we could not confirm it - Ed.). **French and Italian environmentalists discuss landscape conservation traditions and their biological and cultural significance. There is also a report on a newly-created NGO, the ecological cooperation society Terra-Convention, which will promote and defend the upholding of international ecological laws in Belarus.***

***Дамінік Вуане,***
*міністр па ўладкаванні тэрыторыі і навакольнага асяроддзя (Францыя):*

## "Разнастайнасць краявідаў будзе моцна цярпець, калі не рупіцца яе бараніць"



Немагчыма гаварыць пра ландшафт, умовы жыцця на дзень заўтрашні і не звязваць адно й другое з будучыняй.

Сяляне з рэгіёна Арморык, цярэбячы дубовыя гаі на атлантычным узбярэжжы Францыі, стварылі непаўторныя схілы пагоркаў ужо ў эпоху неаліту, манахі сярэдневечча асушалі балоты, а пастухі вадзілі статкі авечак па гарах Міжземнамор'я, пакідаючы там "свой" глыбокі след, — усе яны стваралі ландшафты, якія можна назваць пабочным прадуктам іх эканамічнай дзейнасці.

Нашы продкі будавалі гарады, саборы і замкі, пракладалі дарогі й каналы, стваралі сады і паркі і, бадай, кожным разам пры гэтым імкнуліся зрабіць нешта прыгожае, адпаведна з эстэтычнымі паняццямі свайго часу.

Вынікам настойлівай працы папярэднікаў, якія шчыравалі да нас, узнікла вялікае багацце выглядаў і ландшафтаў, якім зайздросцяць сёння многія ў свеце.

Разнастайнасць гэтая, аднак, робіцца крохкай і лёгка парушнай, калі яе ніхто сёння не будзе рупіцца бараніць.

Яе пачынаюць ігнараваць, паколькі яна не дае прыбыткаў, і тады яна пачынае знікаць пад ударамі уніфармізацыі, якая хваля за хваляй сягае і сельскіх ландшафтаў, не кажучы пра гарадскія асяродкі. Нашы прыгарады зрабіліся зусім аднолькавым скопішчам гмахаў, якія ідэнтычныя скрозь па Еўропе.

Але гэткае становішча не адпавядае пажаданням усё большай часткі насельніцтва Еўропы – мець такое наваколле, якое б забяспечвала ім высокую якасць жыцця і падарожжаў.

Апроч эстэтычнага й культурнага аспектаў ландшафтаў, трэба мець на ўвазе біялагічныя падставы іх расліннага складу. Захаванне ландшафта часта азначае проста тое, каб як мага даць жыццю волю вымавіць само сябе, пры гэтым толькі разумна дабіраць яму пэўны кірунак. Напрыклад, зялёная агароджа, калі яе не стрыгчы, загіне, бо ёсць справай рук чалавечых. Раслінныя кампаненты ландшафтаў тым больш важныя, што з'яўляюцца асновай біялагічнай разнастайнасці. Без жывых лабірынтаў раслінных агараджэнняў, лясістых берагоў рэк і балотаў, без лужкоў ды іншых відаў расліннасці было б немагчыма нават імкнуцца захаваць значную частку біялагічнай разнастайнасці нашых краін, тэрыторыя якіх пабіта на асобныя лапікі шматлікімі відамі наземных інфраструктураў.

Гэта – праблема для тых грамадстваў, якія будуюць сваю палітыку ў кароткатэрміновай перспектыве, тады калі неабходна паяднаць культуру і прыроду дзеля ўстойлівай палітыкі ў справах ландшафтаў

***Вальтэр Вельтроні,***
супрацоўнік міністэрства культурных каштоўнасцяў і навакольнага асяроддзя (Італія):

## "Ландшафт краіны – з'ява тыпова культурнага кшталту"



Увага, што надаецца ў Італіі абароне культурнай спадчыны, мае свае карані ў далёкім мінулым. Дзяржавы, якія ўваходзілі ў склад краіны да аб'яднання ў 1861 годзе, мелі ў гэтай сферы ўжо досыць канкрэтнае і дзейнае заканадаўства, арыентаванае на тыя каштоўнасці, якія належала абараняць як выключна значныя на той час. Затым, у XX ст., іх тлумачэнне стала яшчэ больш прадметным, прызнанне набылі каштоўнасці, што вызначалі й характэрызавалі культурную спадчыну.

Ужо ў 1939 годзе закон аб абароне помнікаў і мэблі, якія складаюць спадчыну, дапаўняецца асаблівымі правіламі пераховы ландшафтаў і прадметаў навакольнага асяроддзя. Спачатку гэтыя правілы ўлічвалі адзін толькі крытэрый — красу й непаўторнасць прыроды, але з часам яны былі ўдасканаленыя, і ў 1985 годзе ператварыліся ў абарону ландшафтаў. Ландшафт пачаў разглядацца як вынік адносінаў паміж людзьмі й тэрыторыяй на працягу гісторыі.

Зазначу, што ў Італіі абаронай ландшафтных багаццяў апякуецца міністэрства культурных каштоўнасцяў і навакольнага асяроддзя. Такі прынцып дае выразна падкрэсліць, што ландшафт Італіі – з'ява тыпова культурнага кшталту. На тэрыторыі, дзе захаваліся ўсяго колькі-небудзь некранутых прыродных зон, галоўным чыннікам мусіць быць якасць дзейнасці чалавека, ягоная роля ў перайначванні прыроднага асяроддзя, адказнасць за яго сённяшні стан.

Маючы такую рэальнасць – калі тэрыторыя краіны ўдае сабой як бы разгрупаваны музей, было б недастаткова абмежавацца адміністрацыйнай абаронай асяроддзя. Справа абароны і якасці ландшафта патрабуе большага.





* такім убачыў браслаўскі ландшафт з азёрамі наш аўтар экатурыст **Аляксандр Гутоўскі** (восень, 1998). Каб зафіксаваць гэты цудоўны выгляд, Аляксандр падняўся на пагорак. А **Міхал Козел** з Турава – аўтар другога здымка – заспеў "свой" краявід, наадварот, знізу, гледзячы на пагорак. Гэткім чынам мы паядналі не толькі дзве кропкі Беларусі — паўночную і паўднёвую, але і два ландшафты: адметна ўнікальны (з азёрамі) і звычайны, будзённы. Кожны патрабуе ўвагі і далікатнасці. Прыбярыце коней са здымка — і "будзённы" краявід распадзецца, страціць штосьці адвечнае, з чым паяднана душа кожнага беларуса.

# І азваўся Герцэнаў звон

## "Дрымучая справа" з хронікі Белавежскай пушчы застаецца актуальнай праз 138 гадоў

**Дзве ўвагі на акалічнасці дадзенай публікацыі**

**Першая**

Георгій Валкавыцкі - з беластоцкіх беларусаў Польшчы, паэт і публіцыст, карэнны белавежац — прэзентаваў рэдакцыі кнігу сваіх эсэ *"Белая вязь"* (Беласток, 1998). Герцэнаў звон - фрагмент кнігі — ёсць аўтарскім пераказам вядомых і дужа нашумелых белавежскіх артыкулаў у вольнай рускай палітычнай газеце *"Колокол"* (N108, 1.10.1861), што ў выглядзе ксэракопіі трапілі да Г.Валкавыцкага. *"І азваўся Герцэнаў звон,* - піша аўтар. *"Дрымучая справа" ўскалыхнула нас. Колькі знаёмых герояў! Якія жывучыя! І непаражальныя!.. А можа, развіваемся назад?"* Гэта першая ўвага.

**Другая**

Падаць гісторыю "Дрымучай справы" рэдакцыя збіралася даўно; з хронікі Пушчы яна тырчыць як узняты палец перасцярогі. Рэч не ў тым, што эпізодаў падобнага кшталту ўвогуле бракавала, проста гэтая "справа" мела вялікую агалоску, і яе хутчэй варта ўважаць за тыповую - нажыцца з лесу ахвотных заўсёды было... і шмат засталося дагэтуль, хоць добрага лесу ўжо катастрафічна нестае . Наша ўвага звязана з сённяшнім станам Пушчы і ўсіх лясных ваколіцаў Беларусі. Рацыя за Георгіем Валкавыцкім: гэтая гісторыя як бы рассоўвае межы часу... Рацыя за ўсімі, хто сёння намагаецца ўратаваць Вялікія Парэшткі Вялікага Лесу, хто не маўчыць, шукае любога прыдатнага спосабу зварушыць грамадскі звон. Гэта наша другая ўвага.

***Георгій Валкавыцкі***

Вырубка карабельных дрэў у Белавежскай пушчы – адна з самых жудасных спраў цяперашняга царавання. Пушча складаецца з 112 тысяч дзесяцін суцэльнага лесу, яшчэ нядаўна свежага, густога і дзіўнага па сваіх эканамічных якасцях. Гэта быў у заходняй Расіі адзіны ўзор лясоў амаль першабытных. Наш флот меў у ёй самы багаты запас мачтаў на караблі ўсіх рангаў і наогул велізарны запас караблебудаўнічага матэрыялу. Таму пушча заўсёды была заказнікам, і ў саракавых гадах міністэрства дзяржаўнай маёмасці адмовіла нават флоту ў загатоўцы ў ёй карабельных матэрыялаў. І гэтай пушчы ўжо няма. Яна перайшла ў кішэні двух яўрэяў, у выглядзе чатырох ці пяці мільёнаў срэбрам, і ў кішэні рускіх чыноўнікаў, пачынаючы ад Гамалея і да розных дробных казявак. З'ездзіце ў Белавежскую пушчу і вам бадай пакажуць, каб абдурыць вас (як абдурвалі і гасудара на паляванні ў 1859 годзе), пышныя, разложыстыя дрэвы, пільна захаваныя дзеля ашуканства. Ды ўсё гэта трухлявыя старэчы, прыгажуны і больш нічога, ад якіх няма ніякай карысці. Рэшта, што складала сілу, значэнне, вартасць пушчы, у кішэнях жыдоў.*

Пачалося з таго, што калі ўстанавіўся корпус ляснічых, навука заўважыла, што ў Белавежскай пушчы лес асмельваецца вырастаць шкодным чынам сам праз сябе, зусім не па правілах навукі. Мясцовае кіраўніцтва не магло далей устрымацца ад спакуслівых выгад; яно адразу выстаралася, з мэтай выканання плана навукі, высачэйшы дазвол на вырубку перастойных дрэў. Можна сабе ўявіць, як тут узяліся за перастойныя дрэвы. У 1849 годзе яўрэй Заблудоўскі атрымаў па кантракту, па мізэрнай таксе, права на вырубку. Найлепшы карабельны лес пайшоў за мяжу.

Ды хутка другі яўрэй, прускі лесапрамысловец Зімундт, замест таго, каб далей купляць рускі лес ад Заблудоўскага, у 1854 годзе непасрэдна звярнуўся ў лясны дэпартамент і пад фірмай нейкага Бугенгагена, нягледзячы на ваенны час, калі карабельны лес значыць столькі ж, колькі пушкі, бомбы і порах, заключыў з гэтым дэпартаментам кантракт на вырубку ў Белавежскай пушчы 60 тысяч дрэў, на суму 60 тысяч рублёў срэбрам. Вядома, пасля такой здзелкі ён зараз жа ўзяўся за працу.

У Данцыгу белавежскі лес цаніўся высока, цэлыя транспарты дрэў звычайнага нават памеру прадаваліся па 70 талераў за штуку, а мачты па 200 і нават па 400 талераў. Значыць, справа не ў 60 тысячах талераў, а ў мільёнах. Заблудоўскі жахнуўся ад штучкі былога супольніка, гродзенская палата дзяржаўнай маёмасці ледзь не самлела – яна дагэтуль вяла свае махінацыі па Белавежскай пушчы пад цішком і жыла ў дастатку. Ды яна плакала і рвала на сабе валасы нядоўга: новы спекулянт суцешыў дзяржаўную палату – панёс страту адзін Заблудоўскі.

Раптам у 1855 годзе граф (затым з размякчаным мозгам князь) Арлоў атрымлівае з-за мяжы данос аб вырубцы з Белавежскай пушчы карабельных дрэў, аб незаконнасці кантракта і аб цэлай хмары злоўжыванняў. Данос перададзены міністру Кісялёву. Той пасылае ляснічага разведаць справу на месцы. Вядома, ляснічы ніякіх злоўжыванняў не знаходзіць і ўсхваляе нават у газетах ісцінанавуковае кіраўніцтва пушчы.

Аднак гродзенскі губернатар Ховен (бадай адзіны сумленны чалавек у гэтай гісторыі) настойліва патрабуе ад міністра правесці сапраўднае дааследаванне.

Назначылі следчую камісію (1856 г.). Вельмі салідную: палкоўнік Прасолаў, ляснічы Вайнюкоў, чыноўнік ад генерал-губернатара Таркасаў і Гацкевіч (уласна Гацук, з аднадворцаў), усе штаб-афіцэры; урэшце, для агляду дрэў прыбыў спознены чыноўнік Марскога ведамства Пагоскі; губернскі ляснічы са сваім штатам таксама пасяліўся ў Белавежы.

> *У Данцыгу белавежскі лес цаніўся высока, цэлыя транспарты дрэў звычайнага нават памеру прадаваліся па 70 талераў за штуку, а мачты па 200 і нават па 400 талераў.*

Уся гэта камісія размясцілася ў доме лесапрамыслоўца, раскошна ўладжаным у самым цэнтры пушчы, на поўным і шчодрым яго ўтрыманні. Як з зямлі вырас гэты дом, з дыванамі, люстрамі, буфетамі і партрэтамі такіх асоб, прыяцеляў гаспадара, што ў першыя хвіліны шмат хто не адважваўся расшпіліцца перад імі. Гаспадар забаўляў нясмелых прастакоў расказамі аб сваёй інтымнасці з імі. Тут у падтрымку прыйшло і ўласнаручнае пісьмо прынца прускага, таксама ягонага сябрука. Яно і ашаламіла ўсю кампанію. У доме лесапрамыслоўца ад раніцы да вечара камісія балявала.

А між тым лес спешна сплаўляўся за мяжу – акалічнасць, на якую найбольш спадзявалася камісія і дэпартаменты (лясны і караблебудаўнічы), аплачаныя Зімундтам.

Аднак, міністэрства пачало націскаць і камісія, па неабходнасці развітаўшыся з гасцінным гаспадаром, пайшла ў лес даследваць пні (амаль усе былі пафарбаваны пад старыя дрэвы), потым яна прывяла на допыт і прысягу сялян, папярэдне напоеных колькі трэба, і — натуральна – не знайшлі абсалютна ніякіх злоўжыванняў: данос ілжывы. (Раней Зімундт паклікаў да сябе

*кніжны варыянт пераказу захаваны цалкам (рэд.)



***Ян Ежы Карпінскі*** *- аўтар шырока вядомай серыі фотаадлюстраванняў Белавежскага лесу — пакінуў, апроч 500 фатаграфій, таксама вялікую дзейна-навуковую і літаратурную спадчыну. Дырэктар нацыянальнага парка на працягу 20 гадоў (1932-1952), ён так і не займеў сабе роўных у справе прымнажэння навуковых і культурна-пазнавальных традыцый Белавежскай пушчы.*

*Ян Ежы Карпінскі.* ***Фрагмент сасновага бору.*** *Бібліятэка Белавежскага Нацыянальнага парку (Польшча).*

SUMMARY

***In 1861, the free Russian newspaper Kolokol ("The Bell") published an exposé of barbaric tree-felling in the forests of Belavezhskaya Pushcha reserve. Recalling this article entitled "The Dense Case", we remark that it is still relevant today.***

беднага шляхціча, які таксама на яго даносіў, і сказаў: "Вось вам 1500 рублёў срэбрам. Лепш вазьміце іх і аб'явіце, што зрабілі на мяне паклёп са злосці. Вы і так будзеце ў Сібіры, камісія нічога не знойдзе. У вас 11 дзяцей і жонка, грошы спатрэбяцца. А мне клопатаў менш". Няшчасны згадзіўся і пайшоў у Сібір).

Большая частка камісіі лічыла справу закончанай і ўжо раз'ехалася, калі раптам чыноўнік марскога міністэрства атрымаў новыя інструкцыі. Карабельны дэпартамент загадваў перагледзець увесь сплаўны лес. Пагоскі з Таркасавым адправіліся ў царства польскае. Вайнюкоў тут жа зразумеў небяспеку і ў жаху папёр у Вільню, а адтуль у Пецярбург.

**С**права пачала прымаць крымінальны характар. Здавалася, урэшце ўсё раскрыецца, спыніцца жах і разбой.

Між тым, пры аглядзе сплаўленага лесу пад Варшавай аказаліся адменныя карабельныя дрэвы і мачты. Сплаўляўшыя лес сяляне, падбадзёраныя адсутнасцю камісіі, пачалі прыходзіць са скаргамі на ўсё, што з імі тварылася ў час гэтых зладзейскіх сплаваў: пабоі, калецтвы, агідны харч, гвалтаванне жанчын чыноўнікамі і агентамі. На рацэ амаль кожны дзень праносіліся трупы. Многім плытагонам не хапала грошай, каб вярнуцца дахаты. Справа пачала прымаць крымінальны характар. Здавалася, урэшце ўсё раскрыецца, спыніцца жах і разбой. У гэту хвіліну карабельны дэпартамент паведаміў па тэлеграфу, што, маўляў, зло адкрываецца. Другая дэпеша, у той жа дзень, загадвала Пагоскаму спыніць справу і ад'ехаць. Справа і спынілася. Гэта было ў сярэдзіне лета 1856 года.

Усё прамаўляла за канчатковым рашэннем, калі кіраўніком міністэрства дзяржаўнай маёмасці стаў Мураўёў. Ад гэтага чалавека чакалі нечага асаблівага. Барон Ховен рупліва вярнуў спыненую справу, Мураўёў хутка даведаўся пра ўсе дэталі — і назначыў новую следчую камісію, якую ўзначаліў генерал Бульмерынг. Нястрыманасць і яўнае хабарніцтва гэтага бязглуздага генерала прымусіла нават Мураўёва прагнаць яго. На месца прагнанага назначыў палкоўніка Длатоўскага.

Вось менавіта ў гэты час бура Мараўёўскага правасуддзя пачала сціхаць. Просьбы ўплывовых асоб, стачка дэпартаментаў, карабельнага іляснога, пранырлівасць Зімундта зрабілі тое, што ўсе абвінавачаныя атрымалі чыны, ордэны і падзяку, данясенні неспакойных чыноўнікаў былі адхілены, а чыноўнікі выгнаны. Як вянец справы – Длатоўскаму дадзен сімвал "карысці, гонару і славы" – Уладзімір на шыю.

Між тым па захадах Ховена справа ўсё-такі ішла, яна ўнесена была ў пецярбургскі сенат і нават пагражала вынясеннем рашэння. Ды тут памог разбойніцкай кампаніі сам Мураўёў: у 1859 годзе ён выступае ў сенаце скасавання рашэння і закончыў справу тым, што выклапатаў у цара кампенсацыю страт Зімундту і адпусціў яму у Белавежскай пушчы 10000 дрэў бясплатна, гэта значыць, што выклапатаў яўрэю вялікую ўзнагароду за вынішчэнне цудоўнай пушчы, і што ў сто разоў горш, аддачу неабмежаванага права і спосабаў дакончваць гэтае лесазнішчэнне.

У дадатак да ўсяго, летам 1860 г., у час пабыўкі гасудара ў Белавежы, таварыш міністра-вешальніка прадставіў Зімундта да ордэна, які ён і павесіў на сябе.



**Н**а добры лад, канец 1999-га мог бы ўзбагаціць нас годным шчодрым юбілеем. **Шэсцьдзесят гадоў таму** Белавежская **пушча** абвешчана дзяржаўным запаведнікам. Але радасці з гэтага **ўсё ж** бракуе. Сёння Пушча бяднее сваім адвечным багаццем, **траціць** красу і веліч. Заняпад нарастае, становіцца незваротным. **Дзяржава** тымчасам не робіць раўназначных захадаў, каб зберагчы і ўратаваць каштоўныя парэшткі Зялёнай Атлантыды Еўропы. **Пушчы** не вернуты статус запаведніка, забраны ў 1957 годзе, **Вялікі лес** аплецены камерцыйным сецівам, прэзідэнцкая адміністрацыя ставіць тут на турызм, валютаздабычу, лесанарыхтоўкі.
Адну з сумнапрыгаданых старонак гісторыі Пушчы падае ў **нататках** патомны знавец пушчанскай арнітафауны, вучоны-біёлаг, даследчык-інтэрпрэтатар і даўні аўтар нашай газеты **Уладзімір Дацкевіч.**

***...1957. Запаведнік "Белавежская пушча" спыняе сваю дзейнасць.*** *Яму наўзамен заступае зусім тады невядомая структура - Дзяржаўная запаведна-паляўнічая гаспадарка (праіснавала да 1991 -* ***рэд.****) Мэты і задачы новай структуры абвяшчаліся як запаведныя; разам з тым усё пайшло ў адваротным напрамку - разгортваліся работы зусім іншага кшталту. У "гаспадарці" доўга не было нават статусу і толькі прыканцы 60-х гадоў ён з`явіўся ў выглядзе крыху падпраўленага вядомага Палажэння аб запаведніках. Адпаведна, такім жа самым чынам "мэты і задачы" паказваліся ў паперах лесапаляўнічага ўпарадкавання. На справе гэтая дзейнасць была скіравана выключна на дасягненне магчыма высокай колькасці жывёлін - аб`ектаў палявання, абсталявання ўсялякіх выгодных зручнасцяў для страляючай знаці (узвядзенне розных будынкаў, пракладка асфальтавых і паляўнічых дарог ды шмат чаго іншага). Егерская і лясная ахова былі адлучаны ад навуковага аддзела. Калі "дасягненні" новага для Пушчы паляўнічага аддзела і егерскай службы ацэньваліся без афішавання ці ўвогуле ўтойваліся, то "поспехі" лясніцтваў не хаваліся - выводзіліся па колькасці высечанай у планавым парадку драўніны і спраўна абнародаваліся з усёй належнай атрыбутыкай таго часу - сацспаборніцтвам, пераходнымі чырвонымі сцягамі, прэміямі, каштоўнымі падарункамі і г.д.*

*Разуменне аховы прыроды абмяжоўвалася мерамі барацьбы з браканьерствам ды ізаляцыяй Пушчы ад пранікнення ў яе непажаданых асобаў; усё гэта прыкрывалася ідэяй запаведнасці Пушчы, у чым немалую двухсэнсоўную ролю прадпісвалася выконваць навуковаму аддзелу.*

***Уладзімір Дацкевіч.***
***"Асобныя вынікі арніталагічных даследванняў у Белавежскай Пушчы. 1945-1985 гг."***

## кантрапункт CONTRAPUNCT



**Варта ўсім падумаць ды так абзадачыць, каб шырокі свет ідэнтыфікаваў Беларусь не з рогам раз'ятранай злыгі, а з прыгожай рагатаю галавою белавежскага зубра ў квяцістым вянку першароднае флоры**

# НЕРУШЫ

RESERVES

# Калі мы працягваем рукі – запаведнікі працягваюць ногі

## У інтэрв'ю газеце "Комсомольская правда в Беларуси" Валерый Дранчук уважае, што прамыслова-гаспадарчае асваенне нацыянальных паркаў прывядзе да поўнага іх вынішчэння

– Намінальна сёння ў краіне застаўся толькі адзін запаведнік – Бярэзінскі біясферны. Іншыя асабліва ахоўныя тэрыторыі – Прыпяцкі ландшафтна-гідралагічны, Белавежская пушча, Браслаўскія азёры – набылі статус нацыянальных паркаў. Зроблена гэта не так сабе. Галоўная мэта – займець магчымасць уладам прыкласці руку да нацыянальных каштоўнасцяў, якія, паводле вызначэння, павінны заставацца недатыкальнымі. У распараджэнні аб рэарганізацыі Прыпяцкага запаведніка сказана досыць ясна: "... з мэтаю захавання унікальных прыродных комплексаў Палесся, развіцця **вытворча-гаспадарчай** базы, стварэння ўмоў для вырашэння сацыяльна-эканамічных задач насельніцтва".





Скажыце, якая можа быць вытворча-гаспадарчая дзейнасць у месцах, дзе мусіць панаваць зусім іншы, абсалютны культ – культ захавання біялагічных каштоўнасцяў, культ багавейлівасці перад жыццём, перад кожным дрэвам і нават кустом? А развівацца павінна **навукова-пазнавальная** база, а не вытворча-гаспадарчая. Аднак менавіта вытворча-гаспадарчую – не зважаючы ні на што – рухава развіваюць. У тым жа Прыпяцкім парку запушчана італьянская лінія па вытворчасці паркета. Думаеце, з чаго яго робяць. Вядома, з добрага жывога дуба – інакш, я мяркую, не атрымаеш ( і не прадасі) якасны паркет... Або яшчэ прыклад так званай гаспадарчай дзейнасці ў тым жа "Прыпяцкім". Мне вядома, што ёсць кантракт, я бачыў паперу, на пастаўку адсюль у Галандыю 30 тысяч кубаметраў піламатэрыялаў па 100 даляраў за куб. Сумняваюся, што хоць капейка з гэтых трох мільёнаў даляраў пойдзе на дабрабыт людзей, мясцовых жыхароў. Вы спытаеце: на што ідуць тыя грошы? Наколькі мне ўдалося высветліць, выручка ад кантрактаў паступае на банкаўскі рахунак парка, а потым яе размяркоўваюць – заўважце, не на навуковыя праекты, а на ўзнаўленне таго ж самага вытворча-гаспадарчага механізма... І падобных кантрактаў шмат: дакладна – з Польшчай, Германіяй, Чэхіяй.

– **А што ж закон – ён ёсць ці няма?**

– У Законе "Аб асабліва ахоўных прыродных тэрыторыях і аб`ектах запісана: "Захаванне эталонных і ўнікальных комплексаў і аб`ектаў прыроды ёсць найпершай задачай нацыянальных паркаў". На справе гэта не так.



* "паляўнічая эрозія" даўно апанавала Нацыянальны парк "Прыпяцкі" (былы ландшафтна-гідралагічны запаведнік).

Фота: Міхал Козел

– **Але ж нешта робіцца?**

– Так. Саноўныя таварышы сёння любяць замовіць слоўка-другое пра любоў да прыроды, аднак чамусьці не кажуць, напрыклад, пра заняпад Белавежскай пушчы. Той, хто даўно тут жыве і працуе, пасведчыць, што сёння ад Пушчы як такой засталося мала – хіба што вобраз, "запаведны матыў"... З вынікаў сацыялагічнага даследвання, праведзенага сярод мясцовага насельніцтва, тым часам маем: 47% апытаных лічаць, што на іх вачах стан Пушчы значна пагоршыўся. Прычына – меліярацыя, вырубкі ў вялікіх абоймах, работа ў лесе вялікагрузнай тэхнікі і г.д. Дайце яшчэ сюды тысячы кіламетраў цвёрдапакрытых дарог, трубаправодныя шляхі, дзесяткі піларамаў. Хіба ж можна пры гэтым казаць пра нейкі запаведны гістарычны лес як сённяшнюю рэальнасць. Хіба маральна заяўляць, што нашы зялёныя каштоўнасці ў надзейных руках. І калі ўжо напраўду за мэту мець рэкрэацыю і турызм, дык найперш трэба ратаваць гэтыя выспачкі адноснай ацалеласці, ствараючы вакол іх эфектыўную буферную зону.

Тое ж па Прыпяцкім нацыянальным парку. Яшчэ калі ён быў запаведнікам, гэты найадметны палескі рэзерват быў моцна зняможаны ў перыяд з 1969 па 1987 год. На той час доля старых элітных лясоў паменшылася з 9,1 да 2,9 працэнта. Сёння становішча пагаршаецца.

Былы запаведны унікум, як і шмат іншых, перайшоў альбо паціху пераходзіць у разрад звычайных лесапрамысловых аб'ектаў. Быў запаведнік – зрабіўся лясгас. Сход гарацешны.

Праўдзіва запаведныя сёння хіба што забалочаныя дзялянкі з малатаварным лесам, як гэта мы бачым на прыкладзе Белавежскай пушчы. Дый тое, заўважце, толькі таму, што тэхніка туды папросту не праходзіць... А там, дзе магчыма, будуюць гасцініцы, рэстараны, тэнісныя корты, гаражы, стаянкі і г.д. Дарэчы, Бярэзінскі біясферны запаведнік не выключэнне. На чыстае "запаведанне" яму адпусцілі менш як палавіну тэрыторыі. Затое пабудавана гасцініца пад еўрастандарт. Калі так справа пойдзе і далей, апошні беларускі запаведнік хутка стане прадметам масавага карыстання. "Браслаўскім азёрам" наогул пакінулі на запаведную цішу мізэрныя 3,7 працэнта тэрыторыі.

Усё гэта робіцца пад выглядам развіцця турызму і ўсенароднага доступу да экалагічных каштоўнасцяў. Але хто з беларусаў сюды зможа прыехаць? Хіба што "новыя", тыя, напрыклад, што з задавальненнем здымаюць белавежскі закутак, які, дарэчы, каштуе грошай. Зазірніце ў меню мясцовай рэстарацыі — там вы не ўбачыце гарбаты з верасовым мёдам, затое... прапануецца дзічына па-каралеўску. Дарэчы, яшчэ зусім нядаўна ў музеі прыроды Белавеж-скага парка можна было купіць шкуру чырвонакніжнага зубра...

Гэтую "памылачку" выправілі. Ці выправяць другую? Рэч у тым, што зуброў дагэтуль страляюць. Знаёмая "акумуляцыя валютных сродкаў", бо "выбракоўваюць" гэтых жывёлін выключна немцы, якія плацяць "нам" 8 тысяч дойчмарак за трафей. Карацей кажучы, ідзе валютаздабыча любымі спосабамі.

– **Паляванне – гэта кепска?**

– Замежных паляўнічых вабіць сюды ўсёдазволенасць. Ім жа абяцаюць паляванне з гарантыяй і нават падрыхтуюць трафеі да перавозкі. У сярэднім такое паляванне каштуе 3-4 тысячы марак. Навошта ж нешта ахоўваць, калі так проста можна настраляць марак... У "Прыпяцкім" мне расказалі пра выпадак, як італьянцы настралялі качак, а яны, як пасля высветлілася, належалі да "чырвонакніжнага" віду. Не ведаю, ці ўся тут праўда, але гэтыя качкі мне запомніліся як заканамерныя выдаткі працэсу.

– **І што, пра ўсё гэта нікому не вядома? Чаму маўчаць?**

– Шмат хто лічыць, што гаварыць няма сэнсу. У пэўнай меры гэта так. Цяперашні закліч вучоных – вярнуць запаведнікі, ператварыць іх у навуковыя лабараторыі — пусты гук: улады не чуюць. А нярэдка блазнавата пытаюцца: "Вы што, супраць доступу народа да нашых прыродных каштоўнасцяў?" Я, напрыклад, адказваю: не, я за доступнасць. Але доступнасць – гэта калі мы цвёрда ведаем, што дзікія мясціны ёсць, што яны захаваліся для нас і нашчадкаў і што ім нічога не пагражае... Так, няхай сабе людзі


SUMMARY

*This article sharply criticises the presidential administration's tendency to commercialise and industrialise nature reserves in Belarus. Interviewer Valeriy Dranchuk says total destruction of unique nature conservation areas is now a genuine threat.*

### *З гледзішча натураліста,*

*першым і найважным мерапрыемствам павінна быць закладванне **поўных комплексных прыродных запаведнікаў**, што знаходзяцца пад кантролем дзяржавы, запаведнікаў, у якіх найстражайшым чынам забаронена любое дзеянне чалавека, калі яно можа зыначваць натуральныя месцасялібішчы альбо парушаць цалкавасць флоры ці фауны запаведнай тэрыторыі. Прырода ў гэтых запаведніках як бы належыць сама сабе; усё тут, прынамсі тэарэтычна, павінна адбывацца так, быццам чалавека й не існавала б.*

*Значыць, першая ўмова палягае на тым,каб тэрыторыі, адведзеныя пад поўныя комплексныя запаведнікі, былі **дастаткова вялікія** (пазначана намі — **рэд.**) і акружаныя буфернымі зонамі (нацыянальнымі паркамі, паляўнічымі запаведнікамі, заказнікамі, дзе накладзены абмежаванні на асобныя віды чалавечай дзейнасці). Калі такой зоны не будзе, уплыў чалавека няўхільна прасочваецца за межы запаведніка і законы прыроды не змогуць свабодна функцыянаваць у месцасялібішчах, якія хутка дэградуюць.*

*Закладванне запаведных нерушаў — гэта надзвычай неабходная мера, гэтак жа неабходная, як, напрыклад, закладванне ў прамысловых грамадствах недатыкальных фінансавых фондаў, што захоўваюць на будучыню капітал, які дазволіць выйсці з непрадбачаных цяжкасцяў і ўнікнуць катастрофы...*

*Трэба катэгарычна выключыць любую магчымасць уздзеяння чалавека на прыроду гэтых зон, закрытых для турыстаў. Можна пакінуць доступ да іх хіба адміністратарам ды навукоўцам, пры гэтым іхняя дзейнасць таксама мусіць быць канкрэтна абмежаваная, каб зменшыць да мінімуму кантакт чалавека з прыродай. У нацыянальных парках, адчыненых для турыстаў, і негледзячы на самую пільную ахову, назіраецца добра знаёмая спецыялістам так званая "чалавечая эрозія", праявы якой шматаблічныя - ад мясцовых зменаў сялібішчаў да пераменаў у паводзінах жывёл.*

Жан Дорст.
**"Да таго, як сканае прырода"**
Парыж, 1964

едуць да гэтых мясцін як набліжай, глядзяць з багавейлівасцю на багацце і разнастайнасць прыроды. Але не ўсё можна чапаць рукамі.

Нацыянальны парк – гэта ж зусім не тое, што мы, гараджане, бачым за акном. Гэта іншая цывілізацыя. І ўсімі даступнымі сродкамі яе трэба пазнаваць. А дзеячы, якія сёння гаспадараць у былых рэзерватах, часцей за ўсё папросту ігнаруюць правільны сэнс. Яны хочуць паставіць прыроду на нейкую самаакупнасць, лічы, на панель... Мо каму і падасца мой тон вельмі рэзкім, але я скажу: у нашай маленькай запаведнай зоне, якая займае ўсяго 3-5% агульнай тэрыторыі краіны, пануе хапужнасць і гвалт.

*3 верасня, 99.*

* *тэкст інтэрв'ю друкуецца паводле арыгінала, які быў перададзены рэдакцыі "КП" у якасці завізаванага варыянта. Нязначныя скарачэнні ў газетнай паласе былі зроблены з прычыны тэхнічнага размяшчэння матэрыялу і ў дадзенай публікацыі цалкам узноўленыя.*



* *піларама ў Бярэзінскім біясферным запаведніку, 1999*

* *у нацыянальным парку "Прыпяцкі" бензапіла гаспадарыць як у звычайным лясгасе. Але падаюць дубы.*

*Фота: Міхал Козел*




## "Страляніна на запаведных тэрыторыях – гэта нонсэнс"

У тым жа нумары пад рубрыкай "Афіцыйна" газета "Комсомольская правда" в Беларуси" змясціла таксама кароткі каментар начальніка аддзела запаведнай справы Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя ***Андрэя Галдзянкова***. Цікава пачытаць! Спасылаючыся на заканадаўства, Андрэй Анатольевіч заўважае, што яно *"нават вітае развіццё тут турызма* (у нацыянальных парках – **рэд.**) *і дапускае некаторую гаспадарчую дзейнасць"*. Далей спадар Галдзянкоў дазваляе і пэўную асабістую развязнасць: *"...хоць мы хацелі б,каб у нацыянальных парках было менш вытворчых цэхаў, а больш аховы прыроды"*. Жаданне вартае пахвалы, але хацець мала —міністэрства не палезе на ражон, гэта ясна. Далей, што датычыць палявання. "На жаль, — кажа начальнік аддзела міністэрства, — *нацыянальным паркам даводзіцца гэтым займацца з эканамічных меркаванняў"* (падумалася нават, што прыродаахоўныя інтарэсы сёння, мабыць, адстойвае міністэрства эканомікі). Напэўна, у лепшыя часы Андрэй Галдзянкоў сказаў бы інакш, а сёння трэба казаць заплюшчыўшы вочы на шматлікія няўручныя акалічнасці. Напрыклад, ён пацвердзіў, што ў Белавежскай пушчы можна ўпаляваць і самога зубра, аднак прызнанне гэтага факта тут жа спрабуе нейтралізаваць, маўляў, *"гэта складаны бюракратычны працэс, "дабро" на адстрэл безнадзейна хворай жывёліны неабходна атрымаць у нашым міністэрстве"*. У тым, наколькі жывёліна "безнадзейна хворая", напэўна, не аднойчы ўсумніўся і сам Андрэй Анатольевіч, і той, хто шматразова падпісваў гэты дазвол. Хіба ж не зразумела: з "эканамічных меркаванняў" сачэнне за "здароўем" зуброў мае для іх цяпер вельмі шкодныя наступствы. Дый ці быў такі выпадак, каб адстрэл не дазволілі...

Аднак спадар Галдзянкоў і тут дапускае мяккую вольнасць, якая хоць трохі асланяе гонар міністэрскага мундзіра: *"Адстрэл жывёлін у нацыянальных парках, вядома ж, не самы файны спосаб рэгулявання папуляцый. Лепш іх рассяляць у іншыя лесагаспадаркі. Магчыма, калі-небудзь мы і прыйдзем да таго, каб забараніць паляванні ў нацпарках. Бо што тут казаць, страляніна на запаведных тэрыторыях – гэта нонсэнс"*.

У рэшце рэшт, пазіцыя выказана. Калі зважаць на палітычныя абставіны і парадкі ў краіне, пазіцыя не з горшых – у традыцыях дыпламатычнага замірэння на карысць больш-менш разумнага сэнсу.

* *змяшчаць гэты здымак рэдакцыя не спяшалася, трымаючы, як кажуць, на скрайні выпадак. Менавіта скрайнімі і можна назваць цяперашнія варункі, у якіх новыя і новыя герастраты працягваюць рукі да запаведных мясцін. Ёсць, бадай, дзесяткі спосабаў **не забіваць**, калі пушчанскі волат, сымбаль нашай зямлі, занямог ці пакалечыўся. Аднак перавагу аддаюць не этыцы, а кулі, аплачанай цвёрдай валютай.*

*Што лепш, пра гэта даўно не спрачаюцца.*

*Фота: з архіва "Неруш-прэс"*




Газета "Белавежская пушча" ўдзячная аглядальніку "КП" у Беларусі" Вячаславу Ткачу за ініцыятыву інтэрв'ю і падрыхтоўку тэматычнай паласы.

І яшчэ адзін факт салідарных адносін да праблемы захавання прыроднай спадчыны: *"Беларуская лясная газета"* перадрукавала гэтае інтэрв'ю для сваіх чытачоў і тым самым значна пашырыла кола зацікаўленых.

# Белавежская пушча: каляндар прыроды

**_Віктар Бахараў,_**
біёлаг(Гродна)



## Верасень

Такога маляўнічага, жоўта-барвянага буяння колераў, як у верасні, чакаеш быццам свята. І яно прыходзіць. Але па-рознаму: бывае, спакваля, мяняючы ды стасуючы адценні ў кронах дрэў і кустоў, часам — за лічаныя дні можа распаліць нягасны пажар восеньскага змяркання.

Турыст, які апынуўся на вераснёўскіх сцяжынках Пушчы, будзе ўражаны каляровым багаццем з первагаю чырвонага, як гэта ў лістоце дубоў ці амурскага вінаграда перад музеем Прыроды; тут жа на фоне палкай чырвані эфектна радуе вока пяшчотна-жоўтае ўбранне бярозы, ясеня. Пахмурным днём на шэрым палатне неба крона бярозы й напраўду як залатая, аж свеціцца ўся ўнутраным шчаслівым святлом. Яркія гронкі рабінаў, сакоўныя яблыкі ў садах жыхароў Пушчы – не, гэта, бадай, не змярканне прыроды, а прыгатаванне да чарговага, яшчэ большага свята – прыходу зімы.

Верасень – першае пахаладанне, пачатак асенняга жора шчупака; у гэты час ён асабліва ахвотна бярэцца на блясну. Раніцай на траву Пушчы кладзецца сакавітая, спелая, цяжкая раса. Зубры пасля летніх міграцый пачынаюць паціху зварочваць дадому – назад у Пушчу. Зімой тут ім зусім няпекска – сытней і больш бяспечна. За лета некаторыя сцягачы-вандроўнікі заходзяць далёка, асобных сустракалі аж на Магілёўшчыне.

Пушча тым часам напаўняецца галасным клікам – пачынаюць раўці алені. Дзівосная гэта жывёліна – алень! Варта хоць бы згадаць, што ў папуляцыі колькасць самцоў і самак прыкладна роўная. А вось жывуць яны гэтакімі гарэмамі: адзін важак і пры ім 5-10 алянух. Прычым велічыня гарэму вызначаецца не так фізічнымі якасцямі важака, як вартасцямі іншага кшталту, дзе сваю ролю маюць, так бы мовіць, мудрасць і інтэлект. Мне ў Пушчы даводзілася сутракаць вельмі дужых самцоў, але ... з трымя-чатырмя запалоханымі самачкамі. І наадварот, знешне звычайны важак, але з вялікім гарэмам. І справа тут не ў тых асаблівых мужчынскіх здатнасцях, пра якія можна падумаць, не – усё прасцей. У вопытнага важака самачкі адчуваюць сябе больш камфортна: важак і палянку заўсёды знойдзе з самай смачнай травой, і на дзённай лёжцы будзе гарантаваны ціхі ўтульны адпачынак, дзе мошкі-крывасмокі не так даймаюць, і г.д. А пры выпадку такі важак і пастаіць за свой статак. Неяк у вальеру з аленямі ўварваўся сабака-ваўкадаў. Алень сабраў статак у кут вальеры і мужна адбіваў напады, пакуль праз дзве гадзіны на выручку не падаспела ахова. Пасля бойкі бедны алень, праўда, ледзве стаяў на нагах, а затым, дарэшты знямоганы, й зусім паваліўся...

Рыканне аленяў у верасні ўражвае: моцныя нізкія гукі самца даюць досыць пэўнае, выразнае ўяўленне пра жывёліну. Гэта проба голасу – адзін з этапаў турніраў. Калі знойдзецца смелы сапернік, тут жа адбудзецца й дэманстрацыя моцы. Аднак да турніру справа мала калі даходзіць.

Здараецца гэта, калі сыходзяцца два дужыя самцы; яны кідаюцца насустрач адзін другому. Глуха ўдараюцца рогі аб рогі. Чуцен трэск абламаных галін, збітых сукоў. Турнір звычайна не доўгі. Слабейшы сапернік імгненна бывае падмяты і тут жа сыходзіць з поля паядынку. На жаль, бойка двух розных па моцы, дужых самцоў для аднаго можа скончыцца трагічна.



Пачынаецца яр зуброў. Асілкі пробуюць рогі, могуць як мячык падкінуць вываратнеь. Пабачыць зубра ў такі час – значыць паверыць, што паэтычныя перабольшанні ў апісанні гэтай жывёлы калі і бывалі, дык мала ў чым.

Верасень — час адлёту жураваў, гусей і буслоў. Перад вялікай дарогай птушкі збіраюцца ў чароды, і бацькі пачынаюць вучыць дзяцей лятаць правільнымі касякамі. Я аднойчы бачыў гэтую "школу" на возеры: колькі хваляванняў, эмоцый, кранальных імгненняў!.. Нарэшце, пад вечар маладыя гусі "засвоілі правілы" лёту і ўранку ўзняліся ў неба. Я журліва глядзеў ім услед, любуючыся прыгожым і надзіва стройным касяком. А вось жураўлям, паводле маіх назіранняў, аднаго дня цвічэнняў замала. Ізнюю вучобу мне выпала шчасце назіраць адным пахмурным асеннім днём. Усё неба было зацягнута шэрымі аблачынамі; гэта нават былі не хмары, а суцэльны туман, што ўзняўся высока ў неба. Раптам пачуўся крык жураўля, і я прыпыніўся. Падняў галаву і замёр – крык быў выразны і блізкі, а птаха зусім не відаць. Закралася нават падумка, што ў небе заблукала чыясьці душа. Высока ўзнятая імгла засціла далеч, ствараючы ілюзію адсутнасці там птушкі. Тужлівы крык паўтарыўся з другога боку, яму адклікнуўся трэці... Тады я толькі ўцяміў, што гэта птахі вучацца лятаць і арыентавацца. Пад вечар праяснілася, і я з радасцю глядзеў, як тры сям'і жураўлёў працягвалі ўрокі пілатажу. На другі дзень яны дружна ўзняліся на крыло і роўным трохкутнікам пайшлі ў тым жа, паўднёва-заходнім напрамку.

На ўскраіне Пушчы сям'я мясцовых жыхароў распавяла цікавую гісторыю з буслам. Тое лета для пары буслоў было нешчаслівае. Адно немаўля загінула, а другое вывелася позна і не змагло ўзяцца ў сілу перад адлётам. Давялося бусляняці застацца на гаспадарскім двары. Першым часам дзічыўся, але пакрысе прывык да людзей. Вельмі любіў частавацца цёплымі аладкамі з рук. Самым цяжкім месяцам зімоўкі аказаўся люты. Думалі, не вытрывае, загіне. Але ў сакавіку буслік ажыў. І як радасна ён сустрэў сваіх бацькоў прыканцы красавіка!

Берагі Лясной, Нарава "тонуць" у белым тумане. Часам убачыш, як скрозь гэтае воблака брыдзе алень – галава з рагамі, усё астатняе схавана ў белае "малако". Дзівосны малюнак!



Поклічны голас аленя-самца дае досыць пэўны й выразны партрэт жывёліны

## Кастрычнік



Нехта заўважыў, што гэта ўжо парог зімы. Скідвае пакрысе сваю стракатую адзежу лес і толькі бярозка ля акна маёй лабараторыі нібы саромеецца распрануцца, яшчэ ўся пяшчотна-залатая. Па галінках дрэў утрапёна снуюць сініцы, шукаючы спажывы – лічынак.

*У лесе астоілася цішыня. Дзялянкі нібыта вымерлі. Зрэдку падасць свой бурклівы голас сойка ды неспадзеў пракрумкае варона.*

З рабінак амаль асыпалася лістота, і ў кронах зардзеліся гронкі ягад. У дубровах уся зямля засланая спелымі жалудамі — спажывай, на якую ласыя дзікі і алені. Ёсць на чым прыдбаць лою перад доўгай зімоўкай! У Пушчы дзеля гэтага адмыслова засаджаныя лесапалосы дуба чырвонага, які дае надзвычай багаты ўраджай буйных жалудоў.

У лесе астоілася цішыня. Дзялянкі нібыта вымерлі. Зрэдку падасць свой бурклівы голас сойка ды неспадзеў пракрумкае варона. Драздыы-рабіннікі шумна пералятаюць з рабіны на рабіну – бліжэй да цёплых мясцінаў. Нязвыкла хадзіць пасля шматгалосага спеўнага лета па маўклівa прыцішанай Пушчы. Хіба што раніцай пад нагамі патрэсквае першы тонкі лядок. Азёры, балотцы, лужыны – усё прыхоплена гэтым дзівосным празрыста чыстым і тонкім убраннем.

Неяк праходзіў паўз возера Лядскія і для праверкі трываласці лядовай скарупкі кінуў на лядок невялікую палачку і... О цуд! Лёд заспяваў! Палачка, слізгаючы, спазывала ваганні лёду, з чаго нараджаліся надзіва чыстыя згукі. Відаць, лёд тут быў за крыніцу гукаў, узмацняў іх, ствараў вялікую рэзанансавую паверхню. Гукі былі да таго чыстыя ды чароўныя, што я не ўтрымаўся перад спакусаю музыкі, доўга іграў на гэтым незвычайным прыродным інструменце. На жаль, маё захапленне скончылася нечакана. Я дапусціў неасцярожнасць, кінуў на тонкі лядок сукаваты карэньчык, і лёд не ўтрымаўся, даў нябачную трэшчыну. Казачнае царства гукаў прапала...

Але не... Чуеце? У дзверы з ганку стукаецца зіма. Мабыць, пара адчыняць.



SUMMARY

***Series of Belovezhskaya pushcha sketches contain a lot of seasonal nature observation. September-October issue.***

# “Мікроб – гэта нішто. Умовы – гэта ўсё”

## Выслоўе Луі Пастэра гучыць як урок вялікага настаўніка, аднак цяперашнія “ўмовы” сведчаць, што вучні збіліся з тропу

Нашы адносіны да навакольнага асяроддзя занадта павярхоўныя; рэч у тым, што для няспыннага задавальвання сваіх эгаістычных патрэбаў нам нявыгадна зыначваць сацыяльныя і эканамічныя структуры, ад якіх мы залежым наўпрост, — мы прыстасоўваем іх да цяперашняга стану рэчаў. У выніку тэхнічныя рашэнні прыносяць толькі карысць гандлёвым карпарацыям. Скажам, калі прычынай няўроду аказаліся шкодныя мошкі, дык назаўтра чакай аўтаматычнага апраўдання пачатку “хімічнай вайны” супраць тых самых зламысных мошак, што, вядома ж, на руку вытворцам пестыцыдаў. Або калі прычынай інфекцыйнай хваробы аказаўся які-небудзь мікроб, дык гэта апраўдвае вытворчасць антыбіётыкаў у адпаведных маштабах, што цалкам задавальняе фармацэўтычную прамысловасць. Прыняцце гэтых рашэнняў яшчэ не ўсё, сваёй чаргой яны стымулююць іншыя віды камерцыйнай дзейнасці: транспарт, банкаўскую справу і розьнічны гандаль, якія даюць людзям працу, забяспечваюць паступленне падатковых сум у казну і часова паляпшаюць наш матэрыяльны дабрабыт.

На жаль, тэхналагічныя сродкі дапамагаюць нам толькі ў вырашэнні тэхналагічных праблем і не ў стане ўберагчы прыродныя сістэмы ад разбурэння. Змякчаючы сімптомы экалагічнай хваробы на менш адчувальныя, яны не вырашаюць праблемаў, а яшчэ больш укараняюць іх. Рэне Дзюбо, амерыканскі мікрабіёлаг і заснавальнік так званай экалогіі здароўя яшчэ 40 гадоў таму казаў, што мікробы не ёсць прычынаю ўзнікнення інфекцыйных захворванняў. У чалавеку заўсёды жылі і будуць жыць незлічоныя плоймы мікробаў... Пагроза інфекцыйных захворванняў, на думку Дзюбо, ўзнікае з-за парушэння крытычнай раўнавагі паміж чалавекам і ягоным мікробным “насельніцтвам”, што можа быць выклікана такімі чыннікамі, як узрост, няздатнае харчаванне, слабое радыеактыўнае апраменьванне, радыеактыўны фон, хімічны бруд, вірусы, якія разбураюць імунную сістэму.

Луі Пастэр, які ў мікраарганізмах бачыў першапрычыны ўзнікнення хваробаў, у рэшце рэшт пераканаўся ў памылковасці гэткага погляду. “Мікроб – гэта нішто, — заявіў ён перад смерцю, – умовы – гэта ўсё”. У.Р.Дэй, спецыяліст па хваробах раслінаў, трымаецца думкі, што за паразітамі, якіх мы вінавацім за ўсе нашы беды, хаваюцца іншыя, сапраўдныя крыніцы. Прычынай інфекцыйнай хвалі можа быць тонкая камбінацыя чыннікаў, якія змяншаюць супраціўляльнасць арганізма, аслабляючы яго перад атакамі, якія ён лёгка адбівае ў нармальным стане. Напрыклад, зусім нядаўна ў Паўночным моры пагінула шмат дэльфінаў з-за бруднай марской вады, атручанай усімі існуючымі ў прыродзе цяжкімі металамі, хімічнымі рэчывамі і радыенуклідамі, якія згубна ўплываюць на імунную сістэму марскіх сысуноў, тым самым аслабляючы ўстойлівасць перад вірусам. Тут праўда ў тым, што Паўночнае мора больш не здольнае забяспечваць нармальнае асяроддзе, у якім дэльфіны ды іншыя марскія жывёлы маглі б бяспечна сялібавацца.

Тое ж можам сказаць і пра дэградацыю лясоў Еўропы або ўсходняга ўзбярэжжа Паўночнай Амерыкі, дзе памірае шмат дрэваў. Іх “забойцы” – кіслотныя дажджы з высокім узроўнем утрымання сернай кіслаты... Аднак дрэвы хварэюць і гінуць не толькі там, дзе наваколле забруджана двухвокісам серы. Забруджвальных рэчываў вельмі многа. Яны – у паветры, вадзе і глебе. Яны ставяць нас перад сумным фактам: развітнае індустрыяльнае грамадства стварае ўмовы, у якіх не могуць падтрымлівацца складаныя формы жыцця – такія, як вялікія дрэвы. Гэтыя ўмовы ўжо вельмі далёкія ад тых, якія пераважаюць у здаровых экасістэмах, дзе ўсе складнікі — кампаненты, здольныя змагацца за сваё выжыванне.

Мы не зможам зразумець глыбіню цяперашніх праблем, прымяняючы вузкую навуковую канцэпцыю прычыннасці. Гэтыя праблемы павінны быць вывучаныя ў кантэксце ўсяе біясферы. Калі мы зробім гэта, стане ясна, што ўсе нашы праблемы мусяць вырашацца не з дапамогаю тэхналагічных сродкаў. Толькі звярнуўшыся да асноваў уладкаванасці сучаснага грамадства, мы зразумеем, дзе і ў чым наша першая памылка.

**Эдвард Голдсміт.** *З кнігі “Шлях: экалагічны светапогляд”, 1993*

Найгалоўная цяпер небяспека, дый, праз яе, клопат – гэта, бадай, поўная бяздзейнасць шырокіх слаёў насельніцтва, асабліва інтэлігенцыі, перш-наперш настаўніцтва як найбольш люднага й перадавога ў гэтым ліку. Вартая жалю пасіўнасць у тых выпадках, якія патрабуюць часам невялікіх высілкаў і часу, але якія маглі б даць адчувальны прыродаахоўны і выхаваўчы эфект. Больш за тое, часта не скарыстоўваюцца дзеля справы й зусім рэальныя магчымасці: паходы і злёты ператвараюцца ў марныя забаўкі, працоўныя справы – у надуманыя мерапрыемствы, акцыі па рэсурсазберажэнні (збор металалому, макулатуры, энерга- і водаэканомія) не напаўняюцца экалагічным зместам...

***Мікалай Міхальчук,*** *біёлаг-педагог, кіраўнік студэнцкай экалагічнай групы “Зялёная вобласць”, Брэст.*
*Зварот “На шляху да зялёнага дому”, 1997.*

**Прапановы Мікалая Васільевіча, адрасаваныя настаўнікам і навучэнцам школ і ПТВ, рэдакцыя з удзячнасцю скарыстала ў рубрыцы “Аўтограф”, гл. ст. 10-11**



*Назіранні за ходам духоўнага развіцця дзіцяці паказвае нам, што першыя праявы дзіцячай цікаўнасці звернутыя перш-наперш на прадметы і з'явы навакольнай прыроды. Ужо адно толькі спазіранне іх выклікае жаданне ведаць,* ***адкуль, што й чаму.*** *Правільна пастаўленае вывучэнне прыроды можа толькі ўзмацніць і пашырыць гэтую цікаўнасць. Мы не гаворым пра старое кніжнае навучанне апісальнага кшталту, якое гасіла цягу да прыроды і напаўняла дзіцячую душу маркотай і гідлівасцю. Вывучэнне прыроды, якога вымагае сучасная методыка, ёсць нічым іншым, як дзейным і самастойным здабыццём новых ведаў пра навакольны свет... Вывучэнне гэткага кшталту здольнае ў высокай ступені нараджаць інтэлектуальныя эмоцыі. Гэта вядома кожнаму някніжнаму педагогу. Асабліва прывабны бок маюць тыя формы зносін з прыродай, якія змяшчаюць як мага болей актыўнага элементу (практычныя заняткі, экскурсіі).*

**Б.Райкоў.**
*З артыкула* ***“Школьнае прыродазнаўства і любоў да прыроды”****, 1915*

*Фота: Віталь Прошча (Неруш-прэс)*



***Усім***, хто мае выпускі газеты “Белавежская пушча”, раім скарыстацца няхітрым спосабам, як найлепш захаваць іх, — пранумаруйце ды збярыце ў падшыўку. Хто гэта ўжо зрабіў, мы ўдзячныя ўдвая.
***Рэдакцыя.***

## SUMMARY

*A microbe is nothing, the conditions are everything...”.* ***The title is a quote from Louis Pasteur, and here we compile some comments showing an obvious sense of causality.***

# Чым за морам віно піць, лепш з Нёмана вадзіцу

## Мудрую беларускую прымаўку сёння трэба разумець і так: хто застаецца з Радзімай, павінен дбаць пра чысціню і жыццядайнасць родных крыніц




***Замест прадмовы***

Каб супакоіць сумленне і не крычаць "алярм" за зберажэнне прыроды, некаторыя суайчынннікі гавораць, што, маўляў, "яшчэ хапае", не ўсё згубілі...

Вышэй, у эшалонах улады, на гэты конт выслоўліваюцца й больш аптымістычна: "Захад згубіў, што меў. А ў нас, паглядзіце, рэкі, лясы... Ёсць чым ганарыцца!.."

Алярміст не прымае такіх даводзінаў. У яго — свае: "Сёння яшчэ ёсць крыха, каб ганарыцца, а заўтра не будзе, бо ўсё хуткімі тэмпамі знікае. І часам – незваротна".

***Страты***

Вайна чалавека з прыродай моцна змяніла краявід Стаўпеччыны. Вялікі рабунак зведала біялагічная спадчына ў выніку сельскагаспадарчага асваення тэрыторыі: карчаваліся й заворваліся сфармаваныя за стагоддзі ўрочышчы і гаі, прысады, магутныя дрэвы, ускрайкі вёсак і хутароў, рэшткі культурнай раслінасці. Каля рэчак і рэк, ля азёр будаваліся буйныя жывёлагадоўчыя комплексы, якія дагэтуль застаюцца зонамі экалагічнай пагрозы ў раёне.

Асушальна-знішчальная меліярацыя загубіла 366 кіламетраў рачнога сеціва (спрамленне рэчышчаў), зніклі з зямнога аблічча тысячы балацінак, крыніц, натуральных прыродных атулкаў, што калісьці зваліся салаўінымі. Страты належаць да басейна Нёмана і цалкам адбіваюцца на стане ракі.

Наступ на поймы ды іншыя прыродныя комплексы так і не спынены, асабліва гэта відаць, як небяспечна набліжаецца да іх жыллё, гаспадарча-прамысловы гармідар, дарогі.

Набірае тэмп распрацоўка радовішчаў, блізу нёманскай артэрыі размешчаны завод з гальванічнай вытворчасцю.

Жыхар-чалавек як жывая істота і частка прыроды таксама нясе адчувальныя страты. Збядненне і змена ландшафта адбіваецца на фізічным і псіхічным здароўі, адмоўна ўплывае на генетычную трываласць карэннага насельніцтва.

***Пазіцыя***

У начальніка раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя *Дзмітрыя Астрэйкі* я пацікавіўся, як яму ўдаецца бараніць прыроду ад дзяржавы. Прынамсі, каб не "з`есці" апошняе, пакінуць штосьці нашчадкам. Пастаноўка пытання не збянтэжыла майго суразмоўцу. Націск дзяржаўных структур і ведамстваў на прыродны фон рэгіёнаў застаецца ўзаконеным экалагічным бедствам. Мясцовыя органы кіравання, аднак, нясуць адказнасць за выкарыстанне рэсурсаў і ўстойлівасць экасістэмаў на сваёй тэрыторыі. Тым часам страты не мінаюць "рэгіён Стоўбцы". Кабінет райінспекцыі часам трасуць званкі "знізу": "Куды глядзіце? Чаму не прымяняеце ўладу?"

"А ўлада гэта што? — разважае Дмітрый Мікалаевіч. – Забараніць, пакараць штрафам, адхіліць ад пасады? Не без гэтага. Лакальныя экалагічныя "войны" ідуць амаль штодзень. І на кожны выпадак даводзіцца рэагаваць -- і стрымліваць, і забараняць. Але ж гэта называецца даганяць цягнік. Важная перспектыва. Вось вы пра нашчадкаў. Правільна! Працэнтаў восемдзесят нашых будучых экалагічных праблем вырашаецца сёння ў школе, у студэнцкіх аўдыторыях, у маладзёвым асяроддзі. Дый работа з кадрамі, якія даўно паканчалі універсітэты, таксама не лішняя. Старшыняў калгасаў я не пераканаю штрафамі, паверце. Лепш атрымаецца словам, падтрымкай добрага пачынання, у рэшце рэшт супрацоўніцтвам. Што мяне цешыць, людзі пачынаюць разумець вялікі сэнс прыроднага асяроддзя, гэтае страчанае пачуццё паступова да нас вяртаецца. Зноў жа – з дапамогай школы, раённай газеты, нашых акцый у падтрымку любой прыродаашчаднай ініцыятывы. Сёння, каб захаваць біялагічную спадчыну і, тым самым, умацаваць асяродкі жыцця, чалавеку трэба пачаць інакш думаць. Ну хоць бы кожнаму з нас, дарослых людзей пры пасадах, азірнуцца вакол сябе і сказаць: "Усё, што ад мяне асабіста залежыць, я зраблю, каб захаваць... Гэтае балота, гэтую рэчку, гэтае ўрочышча, гэтую сажалку, гэтае дрэва. Пакуль такі шчыры асабісты маніфест не стане правілам, будуць штрафы, санкцыі, судовыя разборкі".

"Не менш важным чыннікам захавання ландшафтаў Стаўпеччыны ёсць іх адухоўленне, – з інтанацыяй перакананага чалавека даводзіць сваю пазіцыю ачольнік раённага аддзела культуры *Анатоль Грэкаў*. – Нам лёс падараваў вялікага Коласа, шмат іншых выдатных прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі – вучоных, асветнікаў, мастакоў. Сувязь з імі павінна перахоўвацца не толькі праз іхнія творы, адкрыцці ды іхняе слуганне на карысць нацыі, але і праз тыя вытокі–мясціны, адкуль яны пайшлі ў свет і якія складаюць частку такога паняцця як "культур-

**лес - лёс** FORESTS AS A DESTINY

## А што, калі глянуць інакш на прагрэс...

*Пра Налібоцкую пушчу, напэўна, ведае кожны. Слынны лес, і галоўныя лясныя абшары Стаўпеччыны – там. Паўночны Захад раёна, правабярэжны бок Нёмана. Лесагаспадарнікі адзначаюць круглагадовую даступнасць гэтай лясной староны для аўтамабільнага транспарту. Вядома ж, праз добрыя дарогі. Ёсць, аднак, і прыемнае выключэнне: там, дзе Верхне-Нёманская нізіна, дарог бракуе з прычыны моцнай забалочанасці тэрыторыі. Тут лягчэй і зверу, і птушцы; прырода пакінула сабе часовую аслону, пакуль чалавек не прыдумаў, як гэтую аслону здолець.*

*Стаўпецкія лясы багатыя на меданосы. Іх колькасць складае запасы, здольныя напаіць нектарам 1350 пчаласем'яў. А там, дзе канчаецца лес, пачынаецца поле; ёсць дакладныя звесткі, што ўраджайнасць палёў (тых, якія пры лесе) павышаецца на 20-30 адсоткаў. Вось вам і козыр, дзеля чаго трэба берагчы й памнажаць лес. А дадайце сюды 230 тысяч тон кіслароду, якія прадукуюць "зялёныя лёгкія" раёна і без якіх было б вельмі цяжка.*

*Дык можа, меў рацыю паэт, які напісаў такія радкі: "А што, калі глянуць інакш на прагрэс: не секчы сам лес?"*

*Аднак, не зважаючы на "прагрэс", лес на Стаўпеччыне сякуць. На думку экспертаў нашай газеты, сякуць упарта і многа. У прыватнасці, не зважаючы яшчэ на дзве акалічнасці. Вядома, напрыклад, што ў хуткім часе шматлікія дзялянкі апынуцца ў складзе Коласаўскага заказніка, які значна пашырае межы. А гэта, на добры лад, абавязвае і да стрыманага, ашчаднаберагальнага ле-сакарыстання на тэрыторыі будучага заказніка. Па-другое, летні ўраган 1997 года пакінуў на Стаўпеччыне асабліва адметны след. Пацярпела гаспадарка, жыллё, прырода. Супраць сляпой аблады, што несла шматлікія разбурэнні, здавалася, нішто не магло паўстаць, заступіцца. Толькі пасля, калі чалавек зазірнуў у лес, зрабілася ўразумелым, з якою сілай мераўся наш зялёны абаронца. Пад знішчальным прасам апынуліся шматлікія кварталы, поле пабоішча выглядала жудасна-змрочным. Затое ўмалот стыхіі намнога зменшыўся. "Людскі рэсурс" быў аслонены лесам і істотна ацалеў пад сілай удару. Ці засвоены гэты ўрок ахвярнасці лесу разумным жыхарствам? Наўрад.*

*Праўда, аднак з урокаў – загадкавасці прыроды – стаў іншы досвед. Людзі заўважылі, што лесапавал не пакінуў пасля сябе ні слядоў калецтва, ні ахвяраў сярод шматлікай лясной фауны. З гэтага, паводле меркаванняў, вынікала, што звяры і птушкі нібыта загадзя й своечасова пакінулі месцы небяспекі. Так ці не так, на гэта адкажуць вучоныя-знаўцы.*


Фота: Васіль Занько (Стоўбцы)

Стаўпеччына дала свету Якуба Коласа. І ўжо таму можа стаць не толькі літаратурнаю, а перадусім экалагічнаю мекай, бо Якуб Колас надзвычай прыродалюбны, прыродаапявальны і прыродапазнавальны пісьменнік, геній яго і ў гэтым сэнсе застаецца невычэрпным для духоўнага засваення, дый наогул — ён ёсць бліскуча сучасным, нават калі мераць па самых высокіх, сусветных мерках.

Цяпер, калі нашыя ўлады не чуюць голасу вучоных і пісьменнікаў у абарону прыроды, постаць народнага песняра можа стаць сапраўдным аўтарытэтам як для ўладных структур, так і ўсяго грамадства.

**Віктар Парфёнаў,**
акадэмік
Каласавіны, Мінск, 1998





**Засценак Ласток. Мясціна, якая гадавала песняра. А ёсць яшчэ Акінчыцы, Смольня, Альбуць, Бервянец...**
**Філіял Літаратурнага музея Я.Коласа. Фота 1992.**



***каменны метэарыт Заброддзе,** *які 22 верасня 1883 года паяднаў глыбіні космасу з ціхай вёсачкай на правым баку Нёмана. Паводле версіі здарэння, хто ў Заброддзі не спаў і быў на вуліцы, убачылі, як над вёскай з гулам праносіцца вогненны шар, пакідаючы за сабою святлісты шлейф. На вачах людзей нябесны "госць" з грукатам прабіў крыты гонтай дах і зваліўся ў сенцы новай хаты. Ад яго яшчэ ішло-сачылася цяпло. Заважыў камень 3 кг 155 г.. Перахоўваецца метэарыт Заброддзе ў універсітэцкім музеі ў Вільні.*

ны ландшафт".

Варта аддаць належнае: Анатоль Грэкаў за гады сваёй працы здолеў гэтыя словы напоўніць справай. У шматлікіх кутках Стаўпеччыны з ягонай ініцыятывы (ці ім падтрыманай) з'явіліся камяні памяці, іншыя мемарыяльныя знакі – своеасаблівыя ахоўныя граматы прыроднакультурнага краявіду раёна.

## *Возера сярод пушчы*

У сваёй бліскучай працы — "Геаграфія Беларусі" — выдатны вучоны-інтэрпрэтатар Аркадзь Смоліч адзначае "*возера Кроман, якое ляжыць на правым беразе Нёмана, у Налібоцкай пушчы*" як вельмі глыбокае – 12 сажанёў. "*Такую глыбіню нізіннага возера можна вытлумачыць хіба тым, што ў часы ледавіковыя тут быў стварыўся нейкі вір, можа дзякуючы ледавіковаму вадападу, і размыў глыбокую яму, у якой цяпер змяшчаецца возера*".

Меркаванне аўтара хораша й неяк экзатычна захапляе... Аднак, згадваючы гістарычныя ледавікі, мусіш думаць пра сённяшні стан рэдкаснай вадабадзі. Раённая газета "Прамень", у прыватнасці, б'е трывогу: берагоў пад-ахоўнай Кромані спрабуюць даступіцца напалову дзяржаўныя, напалову камерцыйныя структуры, каб з "ледавіковай ямы" чэрпаць валюту. Аднак, каб павялічыць рыбапрадуктыўнасць, трэба змяніць кармавую базу, тым самым парушыць біялагічны рэжым. Непісьменная набрыдзь заўжды пагражала прыроднаму рарытэту; калі ж грамадскасць падавала голас пратэсту, гвалтоўныя гаспадарнікі лезлі цішком — і рабілі чорную справу. Нашкодзіць жа возеру лёгка, надзвычай лёгка. Як заўважыў адзін мой знаёмы, былы партызан, гэта не склад з баепрыпасамі...

Аўтар засцярожлівага артыкула журналіст Фёдар Бандаровіч праз тры месяцы пасля выступу не выказаў аптымізму. Экалагічныя пагрозы па-ранейшаму яго бянтэжаць, лёс возера не бясхмарны. *Каб стрымаць прыродапаядальны гвалт, трэба літаральна штодзень кантраляваць сітуацыю,* зазначыў Фёдар Бандаровіч.

## *Дзе ты, раённы Грынпіс?*

У раёне дагэтуль не сфармавалася ніводнай грамадскай арганізацыі, якая б трымала "зялёную апазіцыю", ці хоць бы мела гэткі клопат за частку сваёй дзейнасці. А як ён патрэбны, "раённы Грынпіс"!

Застаецца хіба надзея на энтузіязм асобных сяброў прыроды з ліку мясцовых жыхароў, якія пры выпадку заўважаць, патэлефануюць у раён, напішуць у газету. Найбольш рэальна, бадай, спадзявацца на школу як асяродак дзейнага выхавання і навучання, перш-наперш на асобу настаўніка – біёлага, географа, гісторыка, літаратара. Такіх прыкладаў, як і паўсюль, на Стаўпеччыне досыць багата. А вось аб'яднацца ў незалежную недзяржаўную арганізацыю, залучыць усіх нераўнадушных, вызначыць напрамкі дзейнасці, сфармуляваць мэты і задачы — час яшчэ не прабіў.

**В.Д.**

**многія старасвецкія будынкі, цэлыя забудовы надзейна трымалі ландшафт Стаўпеччыны.*

*Тыя, што прыйшлі наўзамен — найперш калгасныя, — яго часцей разбуралі, забіраючы адметных самабытных якасцяў і архітэктурнага густу.*

***На здымку мы бачым кузню — досыць пераканальны ўзор цаглянай архітэктуры, які гарманічна і трывала ўпісваўся ў краявід. Гэта адна з пабудоў гаспадарчага двара старадаўняй сядзібы Ленскіх (Сула)***



# Зусім рэальная магчымасці:

## кантраляваць экалагічную сітуацыю на пэўнай тэрыторыі, прагназаваць яе развіццё

***Парады, якімі прапануе скарыстацца вучоны-эколаг, удзельнік зялёнага руху на Беларусі Мікалай Міхальчук, могуць даць на Стаўпеччыне адчувальны прыродаахоўны і выхаваўчы эфект***

**Дзе?**

Вызначце зону прыродаахоўнага ўплыву (дзеяння) Вашай школы (класа, групы, гуртка). Яна павінна быць такой па сваёй плошчы, каб забяспечваліся Вашы рэальныя і аператыўныя прыродаахоўныя дзеянні.

**Што?**

Складзіце, калі зможаце, найпадрабязную карту гэтай тэрыторыі з указаннем усіх прыродных комплексаў і кампанентаў (ландшафт, рэльеф, раслінны покрыў, месцасялібішчы жывёл і птушак і інш.)

**Якое?**

Складзіце таксама карту і занясіце на яе аб'екты, якія на дадзенай тэрыторыі (тэрыторыі Вашага назірання) з'яўляюцца крыніцамі экалагічнай пагрозы. Вызначце ў неабходных выпадках радыус (зону) іх шкоднага ўплыву.

**Навошта?**

Пастарайцеся выявіць тэрыторыі, якія паводле набору рэдкіх, знікаючых або эстэтычна значных сабою відаў (жывёлы, расліны) маглі б прэтэндаваць на ролю ахоўных (мікразаказнікі, заказнікі, помнікі прыроды). Зрабіце іх апісанне, складзіце карту.

**І што ў рэшце рэшт гэта дасць?**

Распачатая справа можа стаць моцным штуршком да актыўнага руху школьніцтва і студэнцтва за зберажэнне прыроднай спадчыны раёна, вобласці і краіны. Карты дапамогуць планаваць і дзейнічаць, выбраць аб'екты, якія найперш патрабуюць увагі і дбання, дазволяць кантраляваць экалагічную сітуацыю і прадбачыць яе развіццё, замаўляць кансультацыі і неабходную дапамогу. Вучні атрымаюць нефармальныя веды пра сваю мясцовасць, уменне і гатоўнасць браць удзел у абарonных акцыях па ахове асяродкаў прыроды.

# нашыя словы!

* * *

*— Ой, бяроза белая,*
*Чаму жоўта, не зелена?*
*— Як жа мне зялёнай быць?*
*Кожны дзень начлежнічкі*
*На карэнні агонь кладуць.*
*Карэнне мне папалілі,*
*Лісцейка пасмалілі.*
*— Маладзенька дзевачка,*
*Чаму хмурна, нявесела?*
*— Як жа мне вясёлай быць?*
*Кожны дзень сваты едуць,*
*Не дадуць мне вырасці,*
*Шоўкам косы выплесці.*

**З асенніх песень.**
Стаўпеччына, вёска Слабада,
ад Бурбоўскай Міхаліны




# SUMMARY

***W**hich green values should be preserved here and now? The paper attempts to answer this question in the Stoubtsy area, whose natural heritage is associated with the classical poet Jakub Kolas who was born there, and sang its praises in his works.*

# *Каб наша цудоўная Беларусь жыла і квітнела, трэба ачысціць зямлю ад АЭС, а не будаваць новыя*

У адным з вячэрніх тэлеНАВІНАЎ быў паказаны рэпартаж з навуковага паседжання (ні дакладнай тэмы, ні прозвішчаў я не запомніў), на якім гаворка ішла, быць ці не быць атамнай электрастанцыі на тэрыторыі Беларусі. Скажу шчыра, я быў моцна ўражаны пастаноўкай пытання і не адразу даў сабе веры, што з маральна-этычных меркаванняў гэткая дыскусія сёння магчымая ў нашай краіне...

Мне падаецца вялікім блюзнерствам нават думаць пра будаўніцтва АЭС на нашай зямлі, скрыўджанай " мірным атамам" як ніхто і нідзе ў свеце. І гэтае блюзнерства дазваляе сабе навука, вучоныя людзі?! Што, іхняя памяць зусім адключылася? Яны не ведаюць пра безліч ахвяраў – беларускіх дзяцей, бацькоў, маладых людзей, пра пакуты й хваробы, пра шпітальную хроніку атамнага Асвенцыма?.. Тое, што здарылася ў красавіку 1986, лічу, падводзіць тоўстую рысу пад усімі дыскусіямі, кшталту "быць ці не быць". Адназначна — не быць!

Я ведаю, нават цвёрда перакананы, што навуковыя магчымасці для пошукаў і вынаходстваў не вычарпальныя. Бо няўжо паўсыхалі рэчкі, вятры перасталі дзьмуць альбо сонца зусім не свеціць? Аб'явіце конкурс "Новыя віды энергіі" і пастаўце пытанне так, каб усім было зразумела, што АЭС цягнуць у трэцяе тысячагоддзе ўжо амаральна, трэба шукаць прынцыпова іншы падмурак – экалагічна прымальны, першнаперш. Нашыя людзі (не абавязкова ў навуцы) здольныя на цікавыя прапановы, ідэі, праекты. Але дзе вы чулі пра які конкурс? Дзе ўвогуле якая-небудзь рада з людзьмі, грамадствам на гэтую сапраўды важную тэму?

Мяркую, і рэферэндуму па гэтым пытанні не будзе. Усё вырашаць за нас тыя, хто "вышэй" і каму "ўсё відаць".

Аднак яшчэ не позна. Кожны сумленны чалавек павінен падняць свой голас супраць. Каб наша цудоўная Беларусь жыла вечна, трэба ачысціць зямлю ад АЭС, а не будаваць новыя. Хацелася б, каб сродкі масавай інфармацыі былі тут на першай лініі.

І сам я стану першым у шэраг тых, хто будзе збіраць подпісы не толькі супраць будаўніцтва АЭС у Беларусі, але й супраць самой гэтай ідэі.

***Іван Панасюк,***
настаўнік,
г. Лунінец

***Ад рэдакцыі.*** *У звязку з гэтым лістом інфармуем чытачоў , што прыканцы кастрычніка ваш карэспандэнт прысутнічаў на прэс-канферэнцыі, якую даў намеснік дырэктара МАГАТЭ (міжнароднай арганізацыі па атамнай энергетыцы) спадар Цянь.*

*На пытанні журналістаў, ці не "прывёз" ён часам у Мінск падрабязнасці адносна будаўніцтва АЭС у Беларусі з дапамогай МАГАТЭ, той адказаў, што гэтую праблему ён не хацеў бы закранаць цяпер, бо, паводле ягоных словаў, мэта візіту іншая – аказанне дапамогі пацярпелым раёнам.*

*Што да будаўніцтва АЭС у Беларусі, сп. Цянь сказаў літаральна наступнае: **"Спачатку вы павінны разабрацца з наступствамі чарнобыльскай катастрофы"**. Больш на гэтую тэму кіраўнік МАГАТЭ нічога не сказаў, што даволі паказальна: разбірацца трэба яшчэ вельмі доўга. Іншая справа, ці хоча гэта рабіць сённяшні ўрад Беларусі?*

# *"Такую рэкламу няхай глядзяць тыя, хто яе замаўляе"*

Рэклама ў большасці выпадкаў не патрабуе нейкіх каментарыяў. Паглядзеў, праглынуў. Або – паглядзеў і забыў.

Тут – выпадак не той, бо і сама рэклама не тая. Прынамсі, так і хочацца спытаць у яе замаўляльнікаў і аўтараў: "Колькі каштуе гэты опіум для народа?" Дакладней, па якіх коштах змешваецца добрае з прыкрым, а праўда з лухтою. Патлумачу, у чым рэч, і што я трымаю за рыторыкай сваіх пытанняў.

Калі адным словам – гэта тэлепадман. Дзяржава, яе ведамствы і пэўныя пры-прэзідэнцкія структуры ды службы апошнім часам вельмі зацікаўленыя напусціць на ўсю краіну ружовага туману, што яны, маўляў, вельмі рупяцца за стан навакольнага асяроддзя, асабліва тэрыторый, ахаваных законам ад гаспадарчай парухі. Праўда, робяць гэта няўдала. Як казаў Станіслаўскі: "Не веру!" Папросту кажучы: "Лухта!". Не той голас, не тыя словы...

Як можна паверыць у шчырасць дзяржавы, якая з'яўляецца галоўным прыродакарыстальнікам, а значыць і галоўным забруджвальнікам асяроддзя, і пры гэтым намагаецца захаваць добры выраз твару?

Разважанне і дэманстрацыю так званых экалагічных відэаступак замаўляюць тыя ж самыя людзі, якія гандлююць запаведнай драўнінаю, ладзяць паляванні для іншаземцаў там, дзе павінны панаваць цішыня і спакой, праводзяць меліярацыю і шукаюць сродкі на будаўніцтва АЭС, тыя, хто падтрымлівае збанкрутаваныя калектыўныя гаспадаркі, галоўнай заваёвай якіх у бітвах за ўраджай стаў заняпад беларускай зямлі, тыя, хто кіруе прадпрыемствамі, якія забруджваюць навакольле і вырабляюць прадукцыю, каб аддаць яе Расеі за энерганосьбіты, хто, у рэшце рэшт, плануе "прыродаразбуральны" бюджэт краіны і г.д. Дык вось, гэтыя людзі прапануюць нам любіць Радзіму, шанаваць прыродныя багацці і клапаціцца пра стан навакольнага асяроддзя?!

У большасці стужак, якія мне выпала бачыць, гледачам упарта навязваецца адчуванне вінаватасці. Маўляў, глядзіце, як дзяржава клапоціцца пра вас, грамадзянаў: і паліва за валюту купляе, і ачышчальныя збудаванні працуюць..., а вы, няўдзячныя, раскідаеце смецце... Аднак, ці варта нам, звычайным грамадзянам, адчуваць гэтую вінаватасць? Мяркую, не. Бо ёсць шэраг акалічнасцяў. Па-першае, увесь цяжар адказнасці за разбурэнне і забруджванне наваколля нясе менавіта дзяржава, а больш дакладна тыя нешматлікія людзі, якія прымаюць рашэнні і тым самым адказваюць за палітыку прыродакарыстання.

У сённяшняй Беларусі, далёкай ад дэмакратыі, шараговы грамадзянін не мае магчымасці ўплываць на прынняцце экалагічна значных рашэнняў. Падругое: прыватны грамадзянін не мае і сродкаў уплыву на стан асяроддзя, яны таксама ў дзяржавы. Несур'ёзна й няшчыра гаварыць пра кінуты апалак цыгарэты ці паперку, калі дзесьці побач ляжаць горы прамыслова-гаспадарчых адходаў і сотні гектараў запаскуджаны усялякай вайсковай хелерай.

З пазіцыі экалогіі параўнанне курца з аўтамабілем – глупства. Так, паветра забруджваецца ў абодвух выпадках, але параўнаем памеры! Дый не гэта галоўнае. Тая ж дзяржава стымулюе рост колькасці аўтамабіляў-забруджвальнікаў. Не навіна, што мыта на ўвоз імпартных машын залежыць яшчэ ад іхняга ўзросту. Аднак чамусьці і на новыя (самыя "чыстыя") і на вельмі старыя (бадай, нікому не патрэбныя) пошліна вельмі вялікая; на астатнія ж, ад якіх Еўропа са сваімі экалагічнымі стандартамі збаўляецца як можа, дадзена зялёнае святло. Едзьце, газуйце, а мы вам рэкламу пакажам!

Паказваючы перапоўненыя скрыні для смецця, трэба гаварыць не пра тое, што грамадзяне Беларусі не дбаюць пра чысціню сваіх горадоў (хоць ёсць і такая праблема), а найперш пра тое, што мясцовыя ўлады не спраўляюцца са сваімі абавязкамі і таму яны павінны несці адказнасць.

Але ці так ужо турбуе кіраўніцтва нашай краіны гэтая праблема? Відаць што, не. Згадзіцеся: куды больш зручна ўтрымліваць войска зборшчыкаў штрафаў, падымаць памеры гэтых штрафаў і "касіць капусту" з грамадзянаў на ўтрыманне існуючага парадку. Збоку відаць іншае: займацца арганізацыяй сістэмы, якая б дапамагла зняць экалага-сацыяльную напружанасць, дзяржава пакуль не збіраецца.

Адчуванне тэлепадману не пакідае і тады, калі глядзіш відэасюжэты, замоўленыя Беларускім фондам запаведнікаў (мабыць, для большасці не сакрэт, што ачольвае гэтую так званую недзяржаўную структуру сам саноўнадзяржаўны Іван Ціцянкоў). І зноў жа бачым фальш, ведаючы, якая пятля зацягваецца апошні час на шыі былых запаведнікаў. Замаўляючы рэкламу, БФЗ намагаецца (хай сабе і няўдала, бездапаможна, нязграбна) завабіць на прыпяцкія баржы ці ў белавежскія закуткі "новых" беларусаў, а заадно напусціць туману, што гэтая ўлада – нібыта пры экалагічнай свядомасці.

Фота: Аляксандр Сідарэнка (Магілёў)





Фота: Ігар Бышнёў (Домжарыцы)



Фота: Міхал Козел (Тураўшчына)

* ***тры здымкі*** *— раса на павуціне, фаза незадаўненага сонечнага зацмення, азёрная вадабадзь. Тры формы светабудовы. А можа, трыццаць, трыста?.. Дынаміка й рытм, дакладнасць і суразмернасць. Выгляды прыродных працэсаў уражваюць і спыняюць, даюць магчымасць чалавеку ўсвядоміць сваё месца і сваё прызначэнне на гэтай адзінай, сваёй зямлі.*

# Была "жамчужынай Беларусі..."

## А якая ты сёння, Нарач?

**Да вайны на Нарачы хадзілі трыццаць невадоў, і перагружаныя падводы дастаўлялі рыбу на кірмаш у Вільню! Цяпер нават тое, што тут адвеку вадзілася, не прыжываецца й гіне**

*Вячаслаў Лапцік*

Уявіць толькі!.. Якім казачна непаўторным выглядала возера Нарач — жамчужына Беларусі — раней! Празрыстасць вады – у якую сёння цяжка паверыць: невялікую дваццацікапеечную манету ўбачыш на глыбіні сем-восем метраў. Вось набраў яе ў бутэльку, паставіў каля пляшкі гарэлкі — і не адрозніш, з якой пасудзіны можна глынуць, каб не апячыся алкаголем. Рыбы гэтулькі, што не ведалі, што з ёй і рабіць.

Падумаць толькі! Да вайны на Нарачы хадзілі трыццаць невадоў, і перагружаныя падводы дастаўлялі рыбу на кірмаш у Вільню!

Нарач — вадаём унікальны і адкрывае цэлую групу блакітных вазёраў. Адсюль пачынаецца непаўторны куток беларускага Паазер'я. Шэсць вадаёмаў на мяжы Мінскай і Віцебскай абласцей – унікальны прыродны комплекс, які мае навуковае і культурнае значэнне.

Азёры, размешчаныя ў катлавіне ўзгоркавай грады, што месцамі ўзвышаецца над імі на пяцьдзесят, а то і шэсцьдзесят метраў, акружаны густымі сасновымі і змешанымі лясамі. Вадаёмы Балдук і Балдучыха, Глубля і Глубелька, Ячмянёк і іх суседзі нездарма называюцца блакітнымі. Пры вялікіх глыбінях вада ў іх здаецца сіняй. Ёсць у гэтых месцах і свая характэрная флора. Тут сустракаюцца рэліктавыя расліны з арыгінальнымі назвамі: вадзяная сасна і меч-трава. Балдук – адзін з самых глыбокіх вадабадзяў краіны, а Ячмянёк — чэмпіён па высокай мінералізацыі вады.

Так што край гэты сапраўды залаты. І, як я ўжо сказаў, не надта даўно быў залаты на рыбу. Гадоў трыццаць таму ў Беларускім моры (так некаторыя называюць возера Нарач) апускалі на дно начэпленага на кручок жыўца і пакідалі на ноч. На раніцу здымалі шчупакоў вагой дзесяць-пятнаццаць кілаграмаў. Бывала, што на Гатаўскіх ямах глыталі жыўца і грузныя, як марская тарпеда, самы: па сорак-шэсцьдзесят "кэгэ".

Вясной на нераст шчупакі і плотка заплывалі ў далеч невялікіх рэк. Мясцовы люд перакрываў вадатокі ды кошыкамі чэрпаў нераставікоў.

Сёння пра падобнае расказваюць як легенду. Усё сплыло ў нябыт: рыба прапала. Бывае, адзін невад яшчэ шуруе па тонях Нарачы, але ўжо ўпустую. Ну заграбе карма ды падыме наверх 15-20 кілаграмаў рыбы, але ж гэта невадам, даўжыня крыла якога складае 500 метраў!

Куды рыба знікла? Магу паверыць, што вугор, маляваk якога завозілі з далёкага Саргасава мора, тут кепска прыжываецца. Але куды падзелася рыба з мясцовай нарачанскай прапіскай? Штогод яна нераступе, ікры ў яе, калі верыць вучоным, не паменела. Яна ў патрэбнай колькасці і ў час адкладвае яе на дно. Прычым, занадта нямала: адзін акунь да 150 тысяч ікрынак, плотка – да 700 тысяч... Дык дзе яна?

Вывад адзін: не прыжываецца і памірае. Вось тое самае страшнае, што тут адбываецца. Мясцовыя жыхары памятаюць, як некалькі гадоў назад берагі каля турбазы пабялелі ад мёртвай плоткі. Спачатку яна стала нейкай здранцвелай: усплыла наверх вадаёма і там сонна ляжала, быццам слухала музыку, што лілася з мясцовых танцпляцовак. Уся выглядала нейкай аблезлай, серабрыстая луска шмаццём вісела па баках. Хвалі выкідвалі на бераг шмат мёртвай рыбы.

Сёлета мор абрынуўся на вугроў. Гэтай доўгай, падобнай на гадзюку, рыбай закідала ўсе берагі. Нездарма 24 ліпеня на беразе возера паміж вёскамі Сіманы і Чараўкі, а гэта недзе паўтара кіламетры, мы знайшлі іх аж 38 штук. Хвалі прыбілі іх, доўгіх і тоўстых, да берага, тэмпература вады ў плюс 24 і паветра ў 30 градусаў рыбу згнаіла да паскуднай смуроднасці. І мы праплылі на чаўне паўтара "кэмэ", выцікваючы сабе на юшку нармальнага вангора, ды, на жаль, не знайшлі. Затое ўвесь бераг гудзеў ад карканння варон і чорнага груганння: гэтыя птахі смуроднае мяса імгненна адчуваюць, таму іх сабраліся цэлыя хмары.

Усё гэта – на паверхні вадаёма, а што творыцца там, у далёкіх глыбінях, куды не можа так проста зазірнуць вока чалавека? Уявіць немагчыма...

Сёння вада ў возеры пачала мутнець. Ужо не пап'еш з бутэлькі, як некалі: адрыгнецца і стане поперак горла. Больш за тое, кожнае

> *Замест ратаўнічага кола на возера накідаюць пятлю. Казна будзе папаўняцца, возера й ваколіцы - марнець ды сыходзіць далей у нябыт.*



** калі ўсходзіцца моцны вецер, возера пачынае "штарміць". У рокаце-гуле хваляў — і велічны поступ, і адчай знемажэння... Красавік, 1999. Фота: Мікалай Дарафей*

лета надыходзіць пара, калі ты паплаваў у нарачанскай вадзе, папялёхкаўся там — і чырвоныя болькі выступаюць на целе. Разам з імі цяжкі сверб апаноўвае скуру, калі ўначы немагчыма нават прыснуць, а дзеці галосяць да раніцы, здзіраючы скуру да самай крыві. Мясцовая райсанэпідстанцыя "рэагуе" апаратыўна і прадумана: людзям проста забараняюць купацца.

Колькі гадоў таму вакол возера пачалі раптам сохнуць стромкія сосны. Яны раслі тут заўсёды й бяды не ведалі, а цяпер з вярхушак дрэў пачала абсыпацца ігліца.

Неўразумелыя рэчы наогул дзеюцца ў наваколлі. У чэрвені на агародах пачалі наплываць густыя туманы, якія з'ядаюць агуркі і памідоры, што раней заўважалася толькі ў жніўні. Зімой у скляпах пачалі вельмі рана гніць позні гатункі яблыкаў. Дый пакуль яны спеюць на дрэве – поўна загадак: прыканцы лета, напрыклад, іх пачынае з'ядаць невядомая чарната. Заўважылі неяк людзі і тое, што ўлетку пасля дажджоў агароды ў нізінках нібыта крывавяць, там бульбоўнік цямнее і вяне. Зямля чырванее так, быццам хтосьці натрушчыў чырвонай цэглы ды рассыпаў гэты пясок зверху на агароды. Або яшчэ: раней жыта заўсёды хараша пахла, і квітнелі ў ім незабыўныя валошкі, якія цяпер прапалі, а пасля летніх "хімпрапалак" зерне не пахне, а смуродзіць.

З усіх бакоў возера жывілі крыніцы. Халодныя ды чыстыя струмені віравалі паўсюль, паілі вадаём. Цяпер большасць іх павысыхала.

Адным словам, і возера, і ўсё жывое, што яго акружае, на вачах чэзне і гіне.

Дык няўжо нельга ўратаваць гэты унік, справядліва названы "жамчужынай Беларусі"? Чаму свядома аддаём яго на вынішчэнне? Ці ў нас ува ўсіх, хто жыве на зямлі бацькоўскай, закладзены спадчынныя гены жорсткага паядальніка?

І быццам прыдумалі чыноўнікі, як яго ўратаваць. Прынята рашэнне аб стварэнні Нацыянальнага парку "Нарачанскі" плошчай 94 тыс. гектараў і яго лесапаляўнічай гаспадаркі на 32,3 тыс. га. Усё гэта перадаецца Кіраўніцтву справамі прэзідэнта. Забіраецца вялікая тэрыторыя без канца і без краю: частка Мядзельскага раёна, Вілейскага, Пастаўскага і Смаргонскага. Сюды ўвойдуць аж 25 азёраў (!), сярод якіх Баторына і Барсукі, Бледнае і Воўчына, Дзягілі і Кузьмічы, Свір і Вішнеўскае... Іх плошча – 16548 гектараў! Пад шыльду Кіраўніцтва трапляе цэлы курортагандаль разам з усімі крамамі й рэстаранамі, аж два санаторыі — "Прыазёрны" і "Будаўнік"...

Калі вы з сям'ёй трапілі адпачываць на берагі "народнага" возера, цяпер мусіце плаціць: за кожнага чалавека, за машыну, за дзень рыбалкі і гэтак далей... Вось і падлічыце, як вас абдзяруць. Казна будзе папаўняцца, а возера й ваколіцы – марнець ды сыходзіць далей у нябыт. Таму й напамінае мне сёння Нарач хворага змарнелага лебедзя, якога замест таго, каб лячыць, працягваюць шалёна скубсці.

*24 жніўня 1999*

**Вячаслаў Лапцік** *нарадзіўся на беразе самой Нарачы ў сям'і рыбака. Мае дыплом журналіста. Працаваў у газетах "Чырвоная змена", "Дзеці і мы" ("Сям'я"), "Свабодныя прафсаюзы", на тэлебачанні. Зараз рэдактар у выдавецтве "Полымя", аўтар кніжак публіцыстыкі, шмат піша на экалагічную тэму.*

SUMMARY

***Lake Narach is the largest in Belarus, and even 50 years ago it provided local residents with an endless supply of fish. Recently the biological value of the "pearl of Belarus" has gone down sharply. The fish have disappeared, springs have dried up, and the once-clear water is now murky. The authorities' decision to set up a national park around the lake does not fill the author with hope, as there are clearly commercial interests at stake here which could worsen the ecological situation.***

# БЕЛАЯ ВЕЖА
BELAYA VEZHA

Біяразнастайнасць

## Зялёная кніга Беларусі адкладзена на невядомы тэрмін

Першы выпуск зялёнай кнігі, якая ўжо мае аналагі ў некаторых суседніх краінах (прынамсі, ва Ўкраіне і Польшчы) у Беларусі не выйдзе ў свет да 2000 года, як планавалася дагэтуль. Тэрмін, вызначаны Нацыянальнай стратэгіяй і планам дзеяння па захаванні і ўстойлівым выкарыстанні біялагічнай разнастайнасці, будзе зрушаны як мінімум на тры гады, мяркуе адзін з ініцыятараў і вядучых выканаўцаў праекта акадэмічны вучоны доктар навук Дзмітрый Голад. "Правальны" стан запланаванага выдання пацвердзіў і адказны бок; у праватнасці, начальнік інспекцы Мінпрыроды Анатоль Мятліцкі, спаслаўшыся першнаперш на адсутнасць дастатковых навуковых сіл і фінансавання, ніякага аптымізму на перспектыву не выказаў.

Тым часам ужо два гады як распачатая справа не мае свайго працягу, спецыялісты інстытута эксперыментальнай батанікі Акадэміі навук мусілі перапыніць мэтаскіраваныя даследванні яшчэ ў 1997 годзе. Збор матэрыялаў да кнігі адкладзены на невядомы тэрмін.

Ідэя Зялёнай кнігі шмат чым блізкая да Чырвонай. Яна цалкам звязана з аховай рэдкіх расլінных супольнасцяў, ключавых экатопаў, якія з кожным годам паступова бяднеюць і ў рэшце рэшт знікаюць з зялёнай карты Беларусі. Дзмітрый Голад, напрыклад, мяркуе, што запас трываласці такіх "рэштках раскошы", як найбольш каштоўныя дзялянкі беларускага лесу, пры сённяшнім лесакарыстанні не перавышае і пяці гадоў.

Захаванне, а перадусім іх грунтоўнае выяўленне, інвентарызацыя, картаграфія павінны зрабіцца часткай сыноўняга клопату пра Бацькаўшчыну, якую цяжка ўявіць без пушчаў, без лясных балацявін, без урочышчаў і гаёў. Зялёная кніга здольная падняць шчыт на іхнюю абарону. Дык ці можна марудзіць? *Уласная інфармацыя.*

Выхаванне

## Упадак беларускага лесу можа і не адбыцца. Па адной істотнай прычыне

Чарговую імпрэзу – семінар па праблемах і перспектывах школьных лясніцтваў — наладзіў Рэспубліканскі экалагічны цэнтр навучання (РЭЦН). У сталіцу былі запрошаны кіраўнікі гэтых даўніх школьных аб'яднанняў сяброў лесу. На семінар, аднак, прыехала і "замена" – там, дзе часова адсутнічае сталы энтузіяст, выправілі перспектыўных ці адказных прадстаўнікоў. Усяго сабралася 50 чалавек, хоць колькасць дзейных школьных лясніцтваў на Беларусі прыкладна ў пяць разоў большая.



Фота: Аляксандр Урбановіч (Гомель)

По завяршэнні семінара адбыўся круглы стол з удзелам спецыялістаў трох Міністэрстваў: адукацыі, лясной гаспадаркі, прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Былі абмеркаваны пытанні нарматыўных і праўных падстаў дзейнасці школьных лясніцтваў; з аднаго боку, дагэтуль няма адпаведнага палажэння, бракуе метадычных дапаможнікаў і сродкаў заахвочвання, з другога — спыніўся працэс "самаліквідацыі" гэтых аб'яднанняў, і колькасць іх паступова павялічваецца. Такім чынам, наспяваў вельмі зручны момант для дыскусіі: за кошт якога рэсурсу магчымы гэты адваротны працэс? ці ўпісваецца мадэль школьнага лясніцтва ў сучасны момант развіцця грамадства і школы? Аднак ход гаворкі набыў традыцыйнае рэчышча. Па рэакцыі залы можна было бачыць, што большасць хоча не дыскусіяў, а пачуць рэальныя рэчы: калі будзе дапаможная літаратура і доўгачаканае палажэнне, ці з'явіцца надбаўка педагогу за кіраўніцтва, як палепшыць стымулы дзіцячай працы на лясных дзялянках і г.д. Прадстаўнікі міністэрстваў штосьці раздзілі, давалі стрыманыя абяцанні, надыктоўвалі свае службовыя тэлефоны для кантактаў (*гл. далей*).

На пытанне "БП" намесніку міністра лясной гаспадаркі сп. Юшкевічу, *ці бачыць ён у школьных аб'яднаннях сумяшчэнне навучальнай функцыі і грамадскага "зялёнага" кантролю з боку школы*, сп. Юшкевіч засцярожліва параіў дыстанцыявацца ад любой небяспекі ў выніку такога кантролю. Ён спаслаўся на факты браканьерства і трагічныя выпадкі. З пазіцыяй намесніка міністра, увогуле, цалкам слушнай, можна, аднак, пагадзіцца толькі ў тым разе, калі за грамадскі кантроль мець "пагоню" са стралянінай. "Зялёны" ж кантроль з боку школы – хутчэй, нешта іншае: гэта і спроба незалежнай экспертызы,і абарона каштоўных дзялянак, асобных дрэў, дуплаў, балотаў, гэта і форма пратэсту, калі ў лес "шыецца" меліярацыя, прыкладаецца ў шаты дарога або на зайцавых сцежках працуе цяжкая тэхніка; у рэшце рэшт, гэта ўжо крытычнае стаўленне да лесакарыстання на пэўнай тэрыторыі. Ці будуць гэтыя пытанні адлюстраваны ў палажэнні аб школьных лясніцтвах, пакажа час.

Удзельнікам было запрапанавана брацца з дапамогай лягсасаў за лясныя сады (дэндрасады), а ў школах ці іншых навучальных асяродках стварэць адмысловыя кабінеты лесу і інш. Прапановы добрыя, аднак сёння ўжо яны выглядаюць досыць квола і галасльона без належнага інфармацыйна-метадычнага забеспячэння. *Уласная інфармацыя.*

**Для кантактаў:**

Рысянкова Тамара Адамаўна (кіраўнік семінара, педагог РЭЦН, тэл. 263-52-09);

Улога Аляксандр Аляксандравіч (падрыхтоўка палажэння аб школьных лясніцтвах, Міністэрства адукацыі, тэл. 222-69-48);

Барадзін Уладзімір Іосіфавіч (Міністэрства лясной гаспадаркі, тэл. 229-37-40)



Энергазберажэнне

## Ветрачок для сябе і суседзяў



Такі млын-ветрачок быў досыць характэрнай рысай пейзажу паўночных раёнаў Беларусі на рубяжы XIX і XX стагоддзяў. Скажам так: гэта не апошні аргумент у сучасных дыскусіях, ці трэба Беларусі АЭС, каб вырашыць адным разам праблему энергіі. Трэба іншае – развіваць і заахвочваць развіццё ўзнаўляльных энергакрыніц – найперш з ветру, сонца, вады. І гэты міні-ветрачок, што прызначаўся для сябе і суседзяў, цудоўна сімвалізуе матэрыяльны досвед народа: вазьмі ў прыроды тое, на што яна багатая. А вялікае, як кажуць, збіраецца з малога.*Фота:з кнігі "Беларускае народнае дойлідства", 1992.*

Засцярога

## Бойцеся цвілі!

Яшчэ нядаўна на цвіль (плесню) глядзелі як на бяскрыўдную рэч, хоць і малапрыемную. Аднак сёння вядома, што праз яе можна атрымаць цяжкія захворванні: ад лёгачных і сардэчных да рака, рэўматызму і алергіі. Больш за тое, грыбок цвілі трапляе ў кроў і органы чалавека...

Завесціся ў кватэры цвілі дапамагае вільгаць, недастатковы абмен паветра. Асабліва актыўна "працуе" на плесневы чыннік "самая надзейная" вокнаізаляцыя з сінтэтыкі, фармуючы асяроддзе, якое шмат чым нагадвае магілы фараонаў. Дарэчы, "праклядце фараонаў" — не што іншае як "перадазоўка" ядаў, якія вылучаюцца з плесені.

Як жа засцерагчыся "цвілога" асяроддзя? Цвіль не цярпіць скразнякоў, а без вільгаці ў яе няма шанцаў. Таму рэкамендуецца штодзень як мага часцей праветроўваць кватэру – хоць бы на пяць хвілін адчыняць насцеж вокны і дзверы, каб даць пахадзіць скразняку.

Ад няпоўнага праветроўвання (дзверы зачынены, вокны адчынены) мала карысці. Адзін люфцік не зробіць абмену паветра.

Паміж сцяною і шафамі пакідайце месца не менш як на 5 см, каб там трымалася паветра.

І варта памятаць: 30 працэнтаў скаргаў на з'яўленне цвілі ў доме маюць пластыкавае паходжанне. Так што "еўрарамонт" і цвіль узаемазвязаныя. Калі аконныя рамы з пластыку – дапаможа толькі скразняк! *Крыніца: BUNDmagazin – "Берагіня".*

SUMMARY

***The Belaya Vezha ("White Tower") section gives various information on ecological and other topics.***

# Булатаўшчына – капішча маіх малітваў

## Мройны суплёт

*Найрад ці хто сёння скажа, за якім аблачыннем гадоў сплыло-адышло тое даўнае, што спрамяняе нам згадку і зрушвае памяць. Не дагоніш, не згледзіш мінулых дзён у праўдзівых дэталях-малюнках. А так цікава даведацца, з чаго ды калі паўстала мая Булатаўшчына -- ляда-разлога сярод абшараў дрымучай калісьці Нясвіжскай пушчы. І чаму яе назва такая. Дзе працяг і пачатак. Мо, паслухаем, што падказала ўяўленне...*





Фердынанд Рушчыц. Зямля. 1898

***Іван Івашка***

Араў мой продак поле. Пакарчаванае, угноенае попелам смалістых сукоў і карчоў. Араў драўлянай сахою. Тая раз-пораз трашчала, чаплялася за камяні, карані і галіны. Раз-пораз рваліся пастронкі.

“Нічога, мабыць, не будзе, – падумаў продак, калі прайшоў чарговую баразну, — не нааруся я гэтак, не будзе поўны мой колас. Каб мець удосталь хлеба, трэба каваць *булатны* плуг. А заадно й *булатны* серп”.

І было яшчэ, бадай, так. Узараў продак поле шырока, глыбока. Урадзіў жытні колас. Выйшаў продак ніву жаць – сам, жонка, дочкі, сыны. Ярылася сонца на небе, спорылася праца на залацістай ніве. Але не драмаў люты вораг. Быццам груган наляцеў ён, спаліў хату, стаптаў ніву, разрабаваў скарб. І зноў падумаў продак: “Нічога, мабыць, не будзе. Каб зберагчы свой куток, скарб і волю, трэба каваць *булатны* меч”.

І магло быць, у рэшце рэшт, гэтак. Наляцеў вораг на мой край. Зашумела дрымучая пушча. За сваю радзіму, за жыццё, за каханне смела падняліся мужчыны й жанчыны. Аднойчы пад юнай дрыгавічанкай забілі каня. Устала яна на ногі, а круга яе чужаземнае груганнё. Не вырвацца з гвалту й няволі беднай душы. І тады дрыгавічанка тонкай рукою ўсадзіла сабе ў грудзі *булатны* нож.

Каб мець булатны плуг, серп, меч, нож, продак плавіў з балотнай руды і гартаваў на агні жалеза, сталь, булат. Так і пайшло тое месца звацца *Булатаўшчынай.*

Ляжыць Булатаўшчына за некалькі вёрстаў ад кожнай з навакольных вёсак Стаўпеччыны і Нясвіжчыны – Вязаўца, Ахрэмавічаў, Петухоўшчыны. Калі з высокага дрэва скіраваць позірк на захад, лёгка ўбачыш ускраіну чыгуначнай станцыі. Гэта гарадскі пасёлак Гародзей – адметны адміністрацыйны цэнтр наваколля. Калі пайсці пехам, у бок тутэйшага “версаля” – Нясвіжа — праз гадзіны тры дойдзеш і да ратушнай вежы.

Булатаўшчына – зачараванае царства маіх мрояў, капішча маіх малітваў, свяшчэнны куток сівой мінуўшчыны сярод татальна тлумнай, спусташальнай сучаснасці. Спазнаў я яе ўсяляк. Вясной і ўлетку, восенню і зімой. Усцяж і ўпоперак. Па ўсіх яе межах, дарогах, сцяжынках. Па травах, іржышчы, раллі. Пехатой і на ровары. Абышоў, абабег, аб'ехаў.

Апошні свой гаспадарчы росквіт старадаўняе дрыгавіцкае ляда Булатаўшчына зведала ў дваццатыя-трыццатыя гады, калі гэтая зямля ўваходзіла ў склад Польшчы і калі ў тагачаснай Савецкай Беларусі адбывалася ўкрыжаванне й чвартаванне вёсак ды вяскоўцаў. Як грыбы пасля дажджу, на Булатаўшчыне выраслі хутары. На свае зямельныя надзелы перабудаваласе з паўтара дзесятка гаспадароў бліжэйшых вёсак.

Летнімі ранкамі дыміліся коміны хат, рыкала жывёла ў хлявах, і на пашы красавала, налівалася, каласілася і залацілася хлебная ніва, квітнела ў загонах бульба, лён, канюшына. Зазімкамі на гумнах грукаталі малатарні, стракаталі ў хатах калаўроткі, а напрадвесні жанчыны ладзілі кросны, ткалі коўдры і абрусы, дзе ўзорамі былі малюнкі чалавечага жыцця й лёсу.

На Булатаўшчыне ёсць магілы. У вайну паліцаі не далі рады адпомсціць за нейкую паразу партызанам, таму люта, жорстка пакvіталіся з сем'ямі хутаранцаў, забілі старых і малых, спалілі некалькі хатаў. Гэта была ці не першая трагедыя Булатаўшчыны – ляда-урочышча, хутара-вёскі — не ў аддалена гістарычным, а ў нашым “памятным” часе.

Другая трагедыя прыйшла з усходу, і хутка абжытая, утульная, самавітая хутаранка Булатаўшчына перастала існаваць. Калгасу ў ахвяру былі прынесены будынкі, палеткі, сады, малатарні, растаптаныя вера й заможнасць.

Аднак лёс рэальнай Булатаўшчыны лепш за лёс міфічнай Атлантыды. Тая знікла, не пакінула пасля сябе, бадай, аніякага следу-знаку. Булатаўшчына – як зямля, як мясцовасць – не знікла. Застаўся тут радзімы знак старадаўнасці, засталося ўтульнае, маляўнічае, векавечнае поле-ляда ў атачэнні лясоў і кустоў Нясвіжскае пушчы.

Выходжу на Булатаўшчыну па адной з лясных сцяжынаў. У блакітным летнім небе палае пунсовае сонца. Булатаўшчына не бязлюдная. На яе абшары, мроіцца мне, збудавана сядзіба. Дзедзіч асеў на гэтай багаслвёнай зямлі, займеў яе сваёй бацькаўшчынай. Значыць, зямля гэта будзе заўсёды дагледжаная. І будзе яна вечная.

*Стаўбцоўскі раён -- Нясвіжскі раён.*

### Малітва за Беларускі Народ

Сусветны Валадару,
Прадвечны Божа!
У нашым штодзённым жыцці, у змаганнях і спакусах, асвяці наш розум Тваім евангельскім святлом, каб мы, захоўваючы Твае прыказанні, перамаглі ўсе цяжкасці і цярпенні ды заўсёды Цябе багаславілі. Пашлі Беларускаму Народу святых і вялікіх слугаў сваіх, якія праведным, чэсным і мудрым жыццём і дзейнасцю вялі б Народ да лепшае долі. Дай нам святое духавенства. Багаславі нашы сем'і, каб у кожнай з іх дбалы бацька і ахвярная маці, злучаныя шчырыаю святою любоўю, выхоўвалі Табе на славу, а Бацькаўшчыне на карысць сваіх дзетак. Асаблівую ласку дай нашай моладзі, каб яна атрымала глыбокае хрысціянскае ўзгадаванне, і ўзрасла на карысных сыноў і дачок свайго народу. Багаславі так жа нашы дачасныя дастаткі, ня дай гінуць марна тым талентам, якія Ты ссылаеш у наш народ, але дай ім свабодна развівацца і закрасаваць Табе на славу, а ўсяму людству на карысць. Багаславі працам сялянства на раллі, працоўным у фабрыках, вучоным ва ўсіх галінах навукі, мастацтва і тэхнікі, каб за іх помачччу Беларускі Народ мог разумна і прыгожа жыць ды развівацца.

**Божым шляхам.**
**Малітоўнік для беларусаў.**
**Рым, 1946.**

SUMMARY

***H**ere the author describes his feelings about the heavy losses sustained by our ancestors. In this historical essay, like in a dewdrop, one can see the tragic fate of the Belarusian people and their plundered nest.*

БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА
*Заснавальнік і рэдактар Валеры Дранчук*

* прыродалюбная асветна-публіцыстычная беларуская газета
* год выдання пяты, 1999
* пасведчанне аб рэгістрацыіі №125 ад 27.06.96
* наклад 3500 асобнікаў
* пры передруку спасылка на газету абавязковая

Афармленне, макет: *Валерый Дранчук*
Карэктура, вёрстка: *Уладзя Ляская*
Summary: *Марк Бэнс, Саша Годзіна*

Адрас для дописаў: 220088 Мінск, Іванаўская, 38-16. Тэл. 236-50-76, факс 220-23-53
Аўтары маюць поўнае права называць рэчы сваімі імёнамі, гаварыць адкрытым тэкстам, але нясуць адказнасць за дакладнасць пададзеных звестак.
Газета надрукавана ў прыватнай друкарні “Мэджык” (Мінск, вул. В.Харужай, 13)
Падпісана ў друк 29.10.99 Замова №1219
Кошт свабодны. У шапіках “Саюздруку” 60.000 руб.

“BIELAVIEZHSKAYA PUSHCHA” Belarusian Nature-Loving Newspaper. Motto: With Love To Lap. Published at the initiative of the Information Green Age...
“NERUSH-PRESS” Contact: 220088 Miensk Ivanauskaya st., 38-16, Phone (375 17) 236-50-76, fax 220-23-53